18 красавіка 2020 | № 15 (674) Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Антывірусная прапанова НЧ!**
Стар. 2

3 **ЦІ ВЫНАЙДУЦЬ ЛЕКІ АД БЕЗАДКАЗНАСЦІ?**

Пытанне наконт лекаў ад безадказнасці, падаецца, павінна хваляваць наш народ не менш, чым пошук вакцыны ад каронавіруса

5–8



**ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ**

9 **ТОЛЬКІ ПА КАРТКАХ!**

Вялікабрытанія з-за эпідэміі не на жарт абмяркоўвае пераход на картквую сістэму для набыцця прадуктаў




10–11 **БЕЛАРУСКІ СКУЛЬПТУРНЫ КРЫЗІС**

Стан сучаснай беларускай манументальнай скульптуры выклікае трывогу, і ўжо даволі працяглы час. Занадта шмат набралася негатыву і горкіх адвочных праблем у галіне гэтага віду мастацтва



# Тэст адукацыі на каронавірус



Тамара МАЦКЕВІЧ




Ілюстрацыя www.fox2now.com

**Ніхто не ведае наступстваў пандэміі каронавіруса: колькі яна працягнецца, колькі людзей памрэ, а колькі перахварэе, як гэта паўплывае на эканоміку, медыя, свядомасць і каштоўнасныя ўстаноўкі людзей. Можна сказаць, што каронавірусны тэст на дзеяздольнасць і трываласць праходзяць усе структуры.**

Не заглыбляючыся ў медыцынскі і эканамічны аспекты, давайце разбярэмся, што каронавірус значыць для адукацыі. Што мы змаглі зразумець і якія высновы зрабіць?

І тут — добрыя навіны. Нарэшце мы дакладна ўбачылі, якія крокі мы павінны рабіць у адукацыі.

### Школьныя праграмы трэба тэрмінова мяняць

Стала відавочна, што праблемы пандэміі — гэта і праблемы нізкага ўзроўню школьнай адукацыі, у тым ліку і медыяадукацыі. Аказалася, школа дае настолькі кепскія веды, што людзі не могуць самастойна разабрацца, што такое вірус, зразумець яго прыроду, шляхі распаўсюду. Натуральная рэакцыя перад невядомым — страх. Менавіта з-за хібаў сваёй адукацыі людзі не могуць крытычна ацаніць інфармацыю і паддаюцца паніцы. Інфадэмія ўзнікла і таму, што людзі самі распаўсюджваюць фэйкі: канспіралагічныя тэорыі, страшылкі, панічныя чуткі пра вірус і яго наступствы. Ці наадварот — недаацэньваюць рызыкі і вядуць сябе безадказна.

Здавалася б, цяпер — не савецкія часы, мы жывем у адкрытай інфармацыйнай прасторы. Але чамусьці небяспека, звязаная з COVID-19, не выклікала імкнення да самаадукацыі ці хаця б масавага звароту да навуковых крыніц: замест вірусолагаў, эпідэміёлагаў і іншых экспертаў людзі гатовыя былі слухаць каго заўгодна, каб толькі пацвердзіць сваю ўстаноўку ў адносінах да праблемы. У інфармацыйнай прасторы пануюць панікёры і пафігісты. Людзі з абгрунтаванай узважанай пазіцыяй вымушаныя маўчаць, каб іх не зацкавалі і тыя, і іншыя.

Столькі разоў мы чулі ад бацькоў, настаўнікаў ды і з высокіх трыбун, што адукацыя павінна адпавядаць патрэбам людзей: для працы, для самарэалізацыі, для актыўнага грамадзянства, для захавання здароўя, урэшце. Можа хоць пасля гэтай пандэміі пачнём пераглядаць школьныя праграмы, якія ў нас амаль не змяніліся з савецкіх часоў. Ну і, нарэшце, зразумеем важнасць медыяадукацыі: уменне шукаць надзейныя крыніцы, іх крытычна ацэньваць — гэта абавязковы навык, які павінна фарміраваць школа. Мне здаецца, што пасля гэтай вясны быць задаволеным якасцю беларускай адукацыі і разважаць пра непатрэбнасць яе рэформы стане проста непрыстойна.

### Настаўнікі і бацькі выраслі з каротких штонікаў патэрналізму

Нашае грамадства мае дзіцячую свядомасць. Інфантыльным грамадствам лягчэй кіраваць, таму ўсе гэтыя празмерныя кантролі, шматлікія інструкцыі, пазбаўленне бацькоў адказнасці за выхаванне дзяцей, абяцанне аднosна прымальнага ўзроўню жыцця ў абмен на лаяльнасць і канфармізм узведзеныя ў ранг дзяржаўнай ідэалогіі. Але цяпер усё гэта, што па-навуковаму называецца палітыкай патэрналізму, паляцела ў тартарары.

**Настаўнікі нарэшце зразумелі, што трэба бараніць сябе самім. Гэтую ўладу яны больш на выбарах так падтрымліваць не будуць**

Сёлетняя вясна паказала, што людзі для дзяржавы — не каштоўнасць. Самы яскравы прыклад — тлумачэнне, чаму каранцін у навучальных установах не патрэбны. Аказваецца, моладзь і дзеці каронавірусам не хвараюць! А педагогі (з якіх каля пятай часткі — пенсіянеры) — не людзі? А прафесарска-выкладчыцкі склад ВНУ — не ў групе рызыкі? Яны разглядаюцца дзяржавай як расходны матэрыял пры абслугоўванні дзяржаўных устаноў адукацыі, што даўно ператварыліся ў камеры захоўвання і ідэалагічнай апрацоўкі дзяцей. Ну, паставіць дзяржава замест іх новых, якія яшчэ лепш будуць кантраляваць і сачыць за думкамі моладзі. Вучыць жа моладзь ніхто не прымушае! Галоўнае — захаваць сваю ўладу.

Настаўнікі нарэшце зразумелі, што трэба бараніць сябе самім. Як — іншая справа. Але гэтую ўладу яны больш на выбарах так падтрымліваць не будуць. Здрада — гэта здрада. Яна так лёгка не забываецца.

Працяг тэмы на стар. 4 »

## Як хутка адновіцца беларуская эканоміка пасля каронакрызісу

**Тры фактары, ад якіх залежыць аднаўленне эканомікі, назвала эканаміст Кацярына Барнукова.**

У чарговым выпуску даследавання World Economic Outlook эксперты МВФ прагназуюць, што ў 2020 годзе прырост ВУП у Беларусі складзе мінус 6% (ранейшы прагноз — прырост 0,3%). Аднаўленне, паводле ацэнак экспертаў, пачнецца ў 2021-м — прырост чакаецца на ўзроўні 3,5%.

Наколькі хутка беларускай эканоміцы атрымаецца выйсці з рэцэсіі, выкліканай каронавірусам, залежыць ад некалькіх фактараў, лічыць акадэмічны дырэктар Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) Кацярына Барнукова.

Першы — гэта наколькі доўга працягнецца сама пандэмія, адзначыла эксперт у анлайн-дыскусіі «Як пандэмія каронавіруса мяняе сусветную палітыку і эканоміку», арганізаванай Цэнтрам новых ідэй.

— Другі фактар тычыцца таго, што ў краіне будуць рабіць для падтрымкі бізнесу і людзей. Калі многія бізнесы збанкрутуюць, ім будзе складана вярнуцца да працы, нават калі пачнецца аднаўленне, — адзначыла Кацярына Барнукова.

Трэці момант эксперт звязвае з макраэканамічнай і фінансавай стабільнасцю: Беларусі цяпер вельмі важна не запусціць інфляцыйна-дэвальвацыйную спіраль, якая прывядзе да нявыплат па знешнім доўгу і сур'ёзных праблем у фінансавай сістэме.

— А фінансавы і банкаўскі крызіс звычайна маюць зацяжны эфект, — адзначыла падчас дыскусіі Кацярына Барнукова. — Утрымаць макраэканамічную стабільнасць — гэта звышважная задача для Беларусі. Мы, на жаль, як ЗША і Еўропа, не можам напляваць на магчымую інфляцыю і пачаць друкаваць грошы.

**Мікалай Адашкевіч, zautra.by, пераклад НЧ**

## Антывірусная прапанова НЧ!

НЧ

**Уладальнікі хатніх жывёл, у прыватнасці, катоў і сабак, у большасці выпадкаў лягчэй альбо зусім бессімптомна пераносяць каронавірус COVID-19. Такую заяву зрабіла польская доктарка Сабіна Олекс-Кондар, якая працуе ў адной з клінік Мадрыда.**

Меркаванне эксперта грунтуецца на назіранні за групай са 100 пацыентаў, інфікаваных каронавірусам, перадае GlosWielkopolski. Лекар выказала здагадку, што з-за пастаяннага кантакту з поўсцю, слінай, а таксама неабходнасцю прыбіраць спаражнення гадаванцаў, імунітэт іх гаспадароў больш устойлівы да розных патагенаў.

«Верагодна, тут мы можам мець справу з больш высокім імунітэтам з-за кантакту з каронавірусамі, спецыфічнымі для хатніх жывёл, і больш эфектыўна працуючай імуннай сістэмай», — адзначае лекар.

Адна з тэорый падвышанай устойлівасці аматараў пушысцікаў да небяспечнай хваробы палягае ў крыжаванай рэакцыі. «Вядома, што ў катоў ёсць форма кацінага каронавіруса, якая не перадаецца людзям. Таму, магчыма, тыя, хто мае цесны штодзённы кантакт з катом-носьбітам, могуць мець антыцелы да віруса кацiных. І гэтыя антыцелы могуць таксама знішчаць вірус чалавека. Вядома, каб пацвердзіць мае здагадкі, спатрэбяцца паглыбленыя даследаванні і статыстыка», — адзначыла лекар.

Вірусолаг Надзея Жалабак распавяла MedOboz, што падобныя здагадкі цалкам рэальныя. «У кнізе Дж. Даймандн "Стрэльбы, мікробы і сталь" апісаныя сведчанні, якія пацвярджаюць меркаванне, што еўрапейцы былі больш устойлівыя да вірусаў, таму што ўтрымлівалі сваіх жывёл у тых жа дамах, у якіх жылі самі. Узаемны цесны кантакт забяспечваў паступовую адаптацыю людзей да вірусаў, якія пераносяць жывёлы, і наадварот», — распавяла эксперт.

Медыкі адзначаюць: штодзённыя зносіны з хатнімі гадаванцамі (катамі, сабакамі, птушкамі, рыбамі і г.д.) і догляд за імі стымулююць умацаванне імунітэту чалавека. У прыватнасці, гэтаму спрыяе пастаянны кантакт з поўсцю, пер'ем, слінай і мікраарганізмамі, якія насяляюць арганізмы жывёл. Больш за тое, людзі, якія жывуць у тандэме з пушысцікамі, што патрабуюць рэгулярнага выгулу, пастаянна атрымліваюць порцыю неабходнай для больш моцнага імунітэту фізічнай актыўнасці (яшчэ і на свежым паветры), што таксама ўносіць сваю лепту ў фарміраванне надзейных ахоўных сіл арганізма.

Умацоўваць імунітэт ніколі не позна. Калі ў вас няма хатняга гадаванца, прапануем вам звярнуць увагу на коцікаў і сабак на нашым сайце з рубрыкі «Выратуй жыццё» — у ёй мы распавядаем пра жывёл, якія праз розныя прычыны аказаліся на вуліцы, і якім так патрэбны клапатлівы гаспадар, утульны і бяспечны куточак, ваша любоў.

Хто ведае, можа, заклік, які ўтрымлівае назва рубрыкі, — выратуй жыццё! — спрацуе ў абодва бакі, і той, каго вы прытуліце, у сваю чаргу, дапаможа вам пераажыць гэтую навалу!

# Што рабіць людзям з хранічнымі хваробамі ва ўмовах эпідэміі

Зінаіда ЦІМОШАК

**Многія людзі з хранічнымі хваробамі шукаюць цяпер розныя спосабы, каб зняць абвастрэнне ў хатніх умовах, не спадзеючыся на афіцыйную медыцыну.**

Міхаіл са Слуцкага раёна мае праблемы з сэрцам, перанёс аперацыю. Кожны год у сярэдзіне сакавіка праходзіў стацыянарнае абследаванне ў Мінскай абласной бальніцы, а сёлета нікуды не паехаў. Доктар выпісаў кош таблетак і параіў схавацца ў якой-небудзь глушы падалей ад людзей. Міхаіл так і зрабіў.

Леаніду, што таксама са Слуцкага раёна, 70 гадоў, летась у яго быў інсульт. Гэтай вясной планаваў прайсці рэабілітацыю ў Залескім абласным рэабілітацыйным цэнтры, каб крыху больш ажывіць, распрацаваць пры дапамозе спецыялістаў нагу і руку. Рэабілітацыя не адбылася, паколькі Залескі рэабілітацыйны цэнтр цяпер займаецца праблемамі, звязанымі з эпідэміяй каронавіруса.

Вядома, што людзі сталага веку, якія маюць у анамнезе інсульт, трансплантацыю, цукровы дыябет, сардэчна-сасудзістыя захворванні і г.д., знаходзяцца ў групе рызыкі па каронавірусе. Таксама як і людзі, якія пакутуюць на аўтаімуннае захворванне. Пры звычайных абставінах падчас абвастрэння іх традыцыйна шпіталізуюць, каб аблегчыць на некаторы час боль і даць магчымасць жыць далей. У Мінскай абласной бальніцы добра абсталяванае фізіятэрапеўтычнае аддзяленне. Крыятэрапія, лазер, бясплатнае іголкаўколванне ў сукупнасці з медыкаментознымі сродкамі значна аблягчаюць становішча такіх хворых. Пра што я ведаю з уласнага досведу.

Але праз каронавірус у мяне не атрымалася пазбавіцца ад абвастрэння рэўматоіднага артрыту ў Мінскай абласной бальніцы вясной гэтага года, нягледзячы на тое, што па запісе гэтай магчымасці чакала ледзь не цэлы год. 15 сакавіка з накіраваннем у руках і вынікамі аналізаў, якія пацвердзілі неабходнасць сур'ёзнага лячэння, у разгубленасці выслухала рэкамендацыю знаёмага мясцовага доктара: «У Бараўляны цяпер лепей не ехаць. Могуць быць праблемы. Варта было б вам з'ехаць на лецішча, у цiхае месца, альбо пасядзець дома і не хадзіць па лячэбных установах. Замест лячэння можаце сябе канчаткова ўгробіць».

І гэта пры тым, што на той момант афіцыйнай інфармацыі пра каронавірус яшчэ было няшмат. Другі доктар на мой запыт, чаго чакаць ад гэтай эпідэміі беларусам, адказала коратка: «Перахварэем усе. Хто перанясе хваробу лёгка, хто цяжка. Некаторыя ўвогуле пакінуць гэты свет. Сядзіце дома, можа, і абыдзецца».

Зразумела, што паміж магчымасцю імгненна, без падрыхтоўкі, пакінуць гэты свет і пакутлівым жыццём выбар быў зроблены на карысць жыцця.

Атрымала поўную торбу ўколаў для базавай тэрапіі, гармонаў і абязбольваючых для лячэння ў хатніх умовах і цяпер спрабую зняць абвастрэнне дома. Атрымліваецца не вельмі, бо патрэбная яшчэ і фізіятэрапія. Дарэчы, Слуцк да гэтых дзён лічыцца «чыстым» горадам. Слуцкая паліклініка прымае «вострых» хворых з розных раёнаў. Для барацьбы з эпідэміяй цяпер перапрафілявана гінекалагічнае аддзяленне, якое, кажуць, пакуль пустуе. Два дні таму, калі зусім цяжка было стрымліваць боль, патэлефанавала ў Слуцкую паліклініку. Рэгістратар паведаміла, што калі ў мяне няма высокай тэмпературы і я не задыхаюся, лепей не турбаваць дактароў, бо яны і так жывуць як на ваенным становішчы. Фізіятэрапеўтычныя працэдуры хворым не праводзяць: «Калі ёсць вострая патрэба ў доктары, выклікайце на дом, а ў паліклініку не прыходзьце».

Так і жывём: зранку і на ноч — жменя абязбольваючых, ноччу замест прасціны — іголчаты дыванок, днём — пошук у інтэрнэце рэцэптаў дадатковых абязбольваючых народных сродкаў у выглядзе кампрэсаў з соллю альбо чорнай рэдзькі з мёдам і гарэлкай. Спадзяюся яшчэ на кветкі бэзу, настоеныя на гарэлцы. Бэз хутка расцвіце, пасля падцягнуцца корань дзьмухаўца, хрэн, лопух, акопнік. Галоўнае, каб гарэлку ў крамах да таго часу не скупілі, бо яна патрэбная для ўсіх настояў. Саромеюся купляць у аўталаўцы шмат бутэлек, бо вяскоўцы вырашаць, што гэта я так лячуся паводле рэцэпту кіраўніка краіны.

Калі не будзе гарэлкі, а каронавірус дасць магчымасць працягваць жыць, пры абвастрэннях можна яшчэ ў крапіве пакачацца, на вогнішчы папячыся, пакласці рукі-ногі на мурашнік, каля пчолак пагуляць. Гэтыя народныя сродкі справакуюць іншыя болі і пякучкі, якія адцягнуць увагу ад болю па хранічнай хваробе.

## Крычаўскага святара, які забудоўваў гарадзішча, прыцягнуць да адказнасці

НЧ

**Пасля публікацыі ў «Новым Часе» артыкула пра разбурэнне помнікаў у Крычаве, дзякуючы неабыякавым да спадчыны беларусам, удалося прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці настаяцеля Мікалаеўскай царквы.**

«Дзякуючы публікацыі ў газеце пра свавольства настаяцеля ў Крычаве, якое прывяло да разбурэння культурных каштоўнасцей, наяўнасці ў мяне гісторыка-архітэктурнага плана Крычава і неабыякавасці ўдзельніка майго тэлеграм-канала "Спадчына", Аляксея Дужага, які даслаў зварот у райвыканкам, парушальнік прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Разам пераможам!» — напісаў у рэдакцыю НЧ чытач Уладзіслаў Чаховіч.

Нагадаем, настаяцель Мікалаеўскай царквы ў Крычаве, што стаіць на гарадзішчы Замкавая гара, Андрэй Ігнатушка заняўся ўладкаваннем уваходнай часткі на Замкавую гару і ў царкву, зруйнаваўшы добрых некалькі метраў вала. Пазней святар вырашыў пабудаваць побач царкоўную лаўку — і знёс яшчэ некалькі метраў вала, чым нанёс шкоду помніку археалогіі.

У адказе намесніка старшыні Крычаўскага райвыканкама гаворыцца, што Мікалаеўская царква ў Крычаве з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю, а землі, на якіх яна размешчаная, — помнік археалогіі. Правядзенне будаўнічых і земляльных работ у межах зоны аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці без дазволу Міністэрства культуры і Нацыянальнай акадэміі навук забароненае.

«Уласніку Мікалаеўскай царквы дадзена прадпісанне аб забароне правядзення будаўнічых і земляльных работ па ўзвядзенні царкоўнай лаўкі да поўнага афармлення неабходнай дакументацыі і правядзення работ па кансервацыі рэштак цагляных збудаванняў, размешчаных на царкоўных землях. Настаяцель Мікалаеўскай царквы будзе прыцягнуты да адказнасці ў адпаведнасці з арт. 21.3 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях».

Таксама паведамляецца, што зварот Аляксея Дужага знаходзіцца на кантролі ў райвыканкаме.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ці вынайдуць лекі ад безадказнасці?

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Пытанне наконт лекаў ад безадказнасці, падаецца, павінна хваляваць наш народ не менш, чым пошук вакцыны ад каронавіруса.**



Фота www.inosmi.ru

Мы ўсе плацім падаткі на ўтрыманне чыноўнікаў, якія, быццам бы, павінны клапаціцца пра нацыянальную бяспеку, адукацыю, здароўе — на тое яны і чыноўнікі. Але калі краіна сапраўды сутыкнулася з выклікам — мы не бачым улады.

Прычым, не бачым яе на ўсіх узроўнях — пачынаючы ад кіраўніка дзяржавы і заканчваючы «народнымі абраннікамі».

У Беларусі, як высветлілася, «няма ніводнай смерці ад каронавіруса», таму што, нібыта, каронавірусная інфекцыя — гэта не хвароба. «Каронавірус — гэта нават не штуршок. Гэта тая атмасфера, у якой развіваюцца іх хранічныя хваробы. Вось у чым прычына. Таму я кажу, што ў нас чыста ад каронавіруса ні адзін чалавек не памёр», — заявіў кіраўнік дзяржавы.

Калі кіравацца такой логікай, то ў Беларусі няма і смерцяў ад ДТЗ. Таму што людзі, якія загінулі ў дарожна-транспартных здарэннях, атрымалі несумяшчальныя з жыццём траўмы і памерлі ад гэтых траўмаў, а не ў ДТЗ. Таксама, напэўна, трэба выпусціць з турмаў усіх забойцаў. Бо людзі памерлі ад нанесеных ім раненняў. А хто нанёс — гэта ўжо, аказваецца, іншая справа. Гэтак жа, згодна з логікай, атрымліваецца?

Вельмі і вельмі дзіўна, што Лукашэнка прамовіў гэта пасля наведвання нашай краіны дэлегацыяй Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Менавіта гэтая арганізацыя дала назву «COVID-19» хваробе, што выклікаецца каронавірусам SARS-CoV-2.

І вось ужо спартовец Вадзім Дзевятоўскі расказвае: «Я паглядзеў статыстыку смерцяў ад пнеўманіі яшчэ да прыходу каронавіруса — і жахнуўся. Ніколі не падумаў бы, што гэта вядомае ўсім захворванне забрала столькі чалавечых жыццяў».

На хвілiначку, Дзевятоўскі — дэпутат Палаты прадстаўнікоў з 2012 па 2019 гады. Сем гадоў ён галасаваў за бюджэт, у якім выдаткоўваліся грошы на медыцыну. Сем гадоў ён слухаў пра нашу «самую лепшую ў свеце сістэму аховы здароўя». І раптам ён жахнуўся, уяўляеце?

Яго, як і нікога ва ўладзе, падаецца, не бянтэжыць, што SARS-CoV-2 — гэта далёка не першы вірус у нашай гісторыі. У нас ужо быў класічны SARS — атыповая пнеўманія ў 2002-м, і H1N1 у 2009-м. І заўсёды былі аднолькавыя «сімптомы» ў айчыннай ахове здароўя: недахоп персаналу, масак, медычных прэпаратаў, чэргі ў аптэках... Падаецца, пасля неаднаразовага паўтарэння такіх хвароба, у краіне павінен быў быць зроблены стратэгічны запас тых жа масак і дэзынфікуючых сродкаў. Але, як высветлілася, — яго няма!

У краіне аж два гады таму арыштавалі больш за дзясятак карупцыянераў-медыкаў. Арыштавалі іх менавіта за «дрэнныя» закупкі медычнага абсталявання. Два гады — багата часу, але чамусьці дагэтуль у краіне назіраецца недахоп апаратаў штучнай вентыляцыі лёгкіх.

Можа, не тых арыштоўвалі? Можа, варта запытаць былога

**Ёсць уражанне, што ўлада проста схавала галаву ў пясок і не жадае прызнаваць відавочных фактаў. У гэтых варунках беларусам толькі і засталося, што выжываць самастойна, не разлічваючы на дапамогу з боку дзяржавы**

міністра аховы здароўя Васіля Жарко, чаму няма стратэгічнага рэзерву сродкаў індывідуальнай абароны, апаратаў ШВЛ, і якім чынам у яго за часы яго міністарскай дзейнасці з'явіўся катэдж коштам прыкладна 700 тысяч долараў?

У той час, калі Лукашэнка «на самым версе» сцвярджае, што ў нас няма захворвання COVID-19, Міністэрства аховы здароўя ў асобе кіраўніка ведамства Уладзіміра Караніка маральна падрыхтоўвае насельніцтва да магчымага ўзмацнення жорсткасці абмежавальных мераў. Каранік сказаў беларускаму тэлебачанню, што ігнараванне ўжо ўведзеных абмежавальных мераў прыводзіць да экспансіі каронавіруса ўнутры краіны.

Сур'ёзнасць сітуацыі пацвярджае і рашэнне ўладаў увесці адміністрацыйную адказнасць за парушэнне рэжыму самаізаляцыі. Праўда, сам Лукашэнка заявіў: «У апошні час мы кажам: самаізаляцыя, самаізаляцыя... Адкрыта скажам, у нас няма ніякай самаізаляцыі. Гэта фактычна амбулаторнае лячэнне. Мы ж на гэтую самаізаляцыю накіроўваем людзей рашэннем лекара. Гэта было маё жалезнае патрабаванне — выпрацуйце дакументы».

Цікава, праўда? Самаізаляцыі ў Беларусі няма, а адміністрацыйная адказнасць за парушэнне рэжыму самаізаляцыі — будзе. Як гэта разумець, пакуль ніхто не патлумачыў.

Кіраўнік Мінздароўя таксама зрабіў прагноз далейшага развіцця сітуацыі. Па яго словах, пік эпідэміі прыйдзецца на канец красавіка — пачатак траўня.

Тым, хто ў самаізаляцыі губляе пачуццё часу, тлумачым: на канец красавіка — пачатак траўня ў нас прыпадаюць Радаўніца і травеньскія святы. І што робіць улада? Мінгарвыканкам, напрыклад, не толькі не будзе забараняць наведванне могілак на Радаўніцу. Ён пускае да гарадскіх могілак дадатковыя аўтобусы!

Карацей, ёсць стойкае уражанне таго, што ўлада проста, як той страус, схавала галаву ў пясок і не жадае прызнаваць відавочных фактаў. У гэтых варунках беларусам толькі і засталося, што выжываць самастойна, не разлічваючы не тое што на нейкія захады — нават на дапамогу з боку атрымальнікаў нашых з вамі падаткаў. Дык навошта нам увогуле такая ўлада?

Безумоўна, мы выжывем. Урэшце, так ці інакш, у цяжкай ці лёгкай форме, мы перахварэем гэтым COVID-19, і ў нас выпрацуецца калектыўны імунітэт. Але заслугі ў гэтым уладаў не будзе ані кропелькі.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Андрэй Стрыжак



**Група грамадзян BYCOVID19, арганізаваная актывістам і яго паплечнікамі, робіць тое, што не робіць дзяржава.**

BYCOVID19 — гэта кааліцыя аб'яднала буйнейшыя валанцёрскія структуры, дабрачынную медыяплатформу, ініцыятывы інжынераў і швачак, сотні людзей, якія збіраюць грошы, дастаюць абарончыя сродкі для медыкаў, дастаўляюць іх у шпіталі па ўсёй краіне, на ўласныя сродкі купляюць і ўласнымі рукамі робяць абарончыя сродкі на 3d прынтарах і швейных машынках.

За два тыдні працы ініцыятывы ў бальніцы па ўсёй Беларусі было перададзена больш за 27 тысяч рэспіратараў, больш за 6 тысяч абарончых шчыткоў і тысячы адзінак іншых сродкаў абароны для медыкаў, якія змагаюцца з пандэміяй. Ініцыятыва таксама скупляе і перадае ў шпіталі кіслародныя канцэнтратары, пульсаксіметры, бескантактныя тэрмометры і іншае абсталяванне.

За лічаныя дні ініцыятыва сабрала больш за 135 тысяч долараў ахвяраванняў, з якіх амаль 20 тысяч долараў дала наша дыяспара. Цяпер важна закупіць яшчэ 100 тысяч рэспіратараў для медыкаў, каб абараніць іх, а гэты тавар, як зазначаецца, у вялікім дэфіцыце. На закупку і дастаўку ў Беларусь такой буйной партыі трэба сабраць не менш за 300 тысяч долараў.

Падрабязней пра ход кампаніі можна чытаць на старонцы ByCovid19 у Фэйсбуку, на асабістай старонцы Андрэя Стрыжака і на сайце bycovid19.com.

### Ларыса Шчыракова



**Суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Сяргей Салоўскі пакараў журналістку-фрылансера, сябра ГА «БАЖ» за нібыта незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ штрафам у 35 базавых велічыняў (945 рублёў).**

Незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ журналісткай-фрылансерам міліцыя Цэнтральнага раёна Гомеля ўгледзела ў відэасюжэце «Кармленне галубоў, ці Прагулкі па набярэжнай», які выйшаў 1 сакавіка на беларускім спадарожнікавым тэлеканале «Белсат», што вяшчае з Польшчы. Тэкставы варыянт сюжэта на сайце тэлеканала выйшаў пад загалоўкам «Падняць канапавыя войскі! У Гомелі пачынаюць карміць галубоў, як у Брэсце».

У сюжэце распавядалася пра гамельчукоў, якія збіраюцца ў нядзелю на гранітнай набярэжнай Сожа, кормяць галубоў, а заадно гутараць з журналістамі і блогерамі пра свае праблемы, абмяркоўваюць эканамічную і грамадска-палітычную сітуацыю ў краіне.

Падчас судовага разбіральніцтва журналістка даводзіла, што права на збор і распаўсюд інфармацыі ёй гарантуе беларуская Канстытуцыя, а таксама Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, які ратыфікавала Беларусь.

Суд адбыўся 13 красавіка, акурат у дзень народзінаў журналісткі. Варта зазначыць, што ў дзень суда прадстаўнікі шведскага аб'яднання журналістаў-фрылансераў Frilans Syd звярнуліся да Лукашэнкі і прэм'ер міністра Беларусі Сяргея Румаса з заклікам спыніць пераслед беларускіх журналістаў-фрылансераў, а таксама правялі акцыю ў падтрымку Шчыраковай.

### Лявон Вольскі



**Беларускі спявак 15 красавіка выпусціў сольны альбом «Амерыка». Яго ўжо можна бясплатна паслухаць або купіць у інтэрнэце.**

У альбоме Лявон Вольскі «спявае пра прэрыі, вецер і каўбойскі капялюш», але песні не адносяцца да чыстага кантры — стылю амерыканскай «сельскай музыкі». Лявон Вольскі кажа, што гэтыя песні «натхнёныя амерыканскай музыкай 60-х гадоў і вестэрнамі», песнямі Боба Дылана, Джоні Кэша, The Byrds, Creedence Clearwater Revival і The Beach Boys.

Усе песні былі запісаныя ў Вільні з нарвежскім саўндпрадзюсарам Снорэ Бергерудам, з якім спявак рабіў ранейшыя альбомы праекту Volski. Цяпер Лявон Вольскі ладзіць «сусветны тур» — але ва ўмовах каранцінаў гэты тур адбудзецца з дапамогай інтэрнэт-трансляцыі. Акустычныя канцэрты запланаваныя адмыслова для Польшчы, Вялікабрытаніі, ЗША і іншых краінаў.


Фота www.vitvesti.by

# Тэст адукацыі на каронавірус

**Людзям стала зразумела: кантраляваць і караць — гэта ўсё, што ўмее ўлада, калі яна не выбіраецца людзьмі. За што мы плацім падаткі, калі іх праядаюць чыноўнікі, якія не маюць ні кампетэнцый, ні кваліфікаваных экспертаў, якія возьмуць на сябе адказнасць выконваць свае абавязкі?**

« Працяг. Пачатак на на стар. 1

Яшчэ больш карысны досвед атрымалі бацькі. Ім абяцалі, што ваша справа — нарадзіць, а дзяржава паклапоціцца пра дзетак: школа выхавае, бедных накорміць бясплатна, міністэрства вырашыць, у што дзетак апранаць, а БРСМ і піянеры навучаць правільна думаць — толькі не лезьце ў працэс. А тут бац! Калі паўстала небяспека жыццю — ніякага каранціну — бясконцыя канікулы. Бацькі нарэшце пачалі разумець, што дзеці — іх клопат, а не дзяржаўны. Уладам, калі яны не выбіраюцца, а самапрызначаюцца, мякка кажучы, пляваць не толькі на адукацыю, гарантаваную Канстытуцыяй, але і на жыццё школьнікаў. Калі ўсе навакольныя краіны ўзяліся за арганізацыю дыстанцыйнага навучання, вылучылі сродкі на стварэнне курсаў, відэаўрокаў, інструментаў для аддаленай адукацыі, аплату настаўнікам за дадатковыя клопаты, наша дзяржава сваіх грамадзян — кінула.

Бацькі нарэшце таксама «выраслі» з кароткіх штонікаў патэрналізму: сталі бараніць дзяцей ад дзяржавы — абвясцілі «народны каранцін» і цяпер самі вымушаны думаць, як іх вучыць-выхоўваць. А яшчэ бацькі зразумелі, што настаўнікі — гэта не маргіналы і не ворагі, такая думка мэтанакіравана навязвалася ім гадамі, каб раз'яднаць грамадства, бо дзяржава баіцца любых аб'яднанняў і салідарных дзеянняў. Настаўнікі — гэта прафесіяналы і паплечнікі.


Фота www.aawsat.com

**Бацькі зразумелі, што настаўнікі — гэта не маргіналы і не ворагі, такая думка мэтанакіравана навязвалася ім гадамі, каб раз'яднаць грамадства. Настаўнікі — гэта прафесіяналы і паплечнікі**

У выніку прыемна глянуць на працэсы, якія адбываюцца. Дарослыя адказныя настаўнікі самі, не чакаючы загаду, сталі збіраць матэрыялы і арганізоўваць навучанне. Хай пакуль толькі для тых дзяцей, што маюць дарослых адказных бацькоў — бо толькі тыя растлумачаць, што бестэрміновыя канікулы — гэта не добра. І трэба вучыцца, а не марнаваць час на прапановы Міністэрства адукацыі. А яно, хто не ведае, вывесіла на сваім сайце заклік да школьнікаў далучыцца да праекту БРСМ: замест вучобы глядзець у сацыяльных сетках на зорак эстрады, якія будуць распавядаць анлайн, як бавіць вольны, а чэмпіёны-спартоўцы —дэманстраваць у інстаграме сторыз з практыкаваннямі.

Гэты фінт з дарослымі бацькамі не пройдзе! А бацькі-недараслі хутка вырастуць таксама. Бо адчулі, што дзеці — гэта іх адказнасць.

### Грамадзянская адукацыя на практыцы — уладу трэба выбіраць!

Усе ўбачылі, што Міністэрства адукацыі не здольнае кіраваць адукацыяй. Яно аказалася настолькі несамастойнай структурай, што не можа прыняць нават самае дробнае рашэнне. Не сказаць, каб мы раней гэтага не ведалі, але цяпер проста смешна глядзець, як надзьмутыя бы індыкі чыноўнікі не могуць вызначыць нават даты канікул. Што ўжо казаць пра рашэнне перавесці школы ці ВНУ на дыстанцыйнае навучанне. Лягчэй кінуць усё на самацёк. У выніку настаўнікі і выкладчыкі ВНУ так і стаяць ураскарачку — вучаць 5 чалавек, астатнім, якія на «народным каранціне», стараюцца даслаць хоць якое заданне, каб тыя зусім не адсталі ад праграмы.

Двайное кіраванне школамі з боку выканкамаў і Мінадукацыі прыводзіць да навязвання неўласцівых абавязкаў настаўніку. Але ў выніку сёлетняга крызісу, напрыклад, прыняцця адказнага рашэння пра каранцін, пра арганізацыю дыстанцыйнага навучання для школьнікаў, гэтыя дзве ўлады пачалі паміж сабой спрачацца і канкураваць, нібыта павукі ў слоіку, і ў выніку ніякага рашэння не прынялі. Маўляў, выжывайце, хто як можа, мы будзем толькі кантраляваць і караць. Гэта што — не крызіс улады?

Людзям стала зразумела: кантраляваць і караць — гэта ўсё, што ўмее ўлада, калі яна не выбіраецца людзьмі. За што мы плацім падаткі, калі іх праядаюць людзі, якія не маюць ні кампетэнцый, ні кваліфікаваных экспертаў, якія возьмуць на сябе адказнасць выконваць свае абавязкі? Ну хаця б даць навуковую ацэнку заклікам лячыцца трактарамі, гарэлкай, хакеем, козачкамі.

Мы ўсе ўбачылі, што ва ўладзе — бардак. Гэтае слова таксама не навіна — нават Лукашэнка пра гэта рэгулярна паведамляе, нібыта не ён сам — крыніца гэтага бардаку. І адзіны спосаб бардаку пазбавіцца — мець магчымасць змяніць уладу праз выбары.

Хочацца верыць, што да бліжэйшых выбараў гэты ўрок грамадствам не забудзецца.

### Мы цяпер даведаемся, хто ёсць хто

Мінадукацыі і падпарадкаваныя яму структуры, такія, як Нацыянальны інстытут адукацыі (НІА), першыя павінны былі ўхапіцца за магчымасць стварэння дыстанцыйнага навучання для школ.

Гэта бадай адзінае, што можа хоць часова выратаваць нашу адукацыю. Кваліфікацыя настаўнікаў нізкая, і далей падае. І дыстанцыйныя ўрокі — гэта выратаванне для дзетак на будучыню. Па-добраму, у НІА трэба было б разагнаць «бабушатнік» і набраць працаздольныя каманды пад кожны праект. Будзь тое стварэнне дыстанцыйнага навучання, напісанне якасных праграм па прадметах ці стварэнне сучасных падручнікаў.

Настаў час для выпрабавання і грамадскіх структур. Як сапраўдных, так і створаных дзяржавай і бізнесам. Педагагічныя аб'яднанні, такія, як клубы «Крыштальны журавель», «Імкненне», «Флагман» і іншыя, маюць найлепшы чалавечы рэсурс і прафесіяналаў, каб хутка ўключыцца ў стварэнне дыстанцыйнага навучання. Вельмі хочацца, каб у іх гэта атрымалася, каб ім дапамаглі, а не перашкаджалі.

У нас бы былі і ўзорныя ўрокі, і відэаролікі паводле нашай жа праграмы, рэальнае ўкараненне ІКТ у адукацыю — майстэрства і творчасці ў нашых настаўнікаў хапае. Шмат міжнародных фондаў дае на гэта фінансы — Еўракамісія, напрыклад, прапануе гранты да 60 тысячаў еўра. Ці здолее дзяржава паспрыяць іх атрыманню?

Арганізацыі, створаныя пры ПВТ і банках, таксама дэманструюць жаданне далучыцца да справы. Але пакуль робяць акцэнт на навучанне настаўнікаў інструментам дыстанцыйнага навучання, а не на стварэнне зместу. А з інструментамі якраз вялікай праблемы і няма. Іх у інтэрнэце процьма, і для кожнага ёсць зразумелыя пакрокавыя інструкцыі. Любы настаўнік, які асвоіў Word, можа разабрацца з імі і будзе ўдасканальваць авалоданне імі ў працэсе карыстання.

Праблема цяпер якраз са зместам для дыстанцыйнага навучання: відэаўрокамі, тэкстамі, тэстамі па кожным прадмеце. Іх трэба ствараць амаль з нуля. І добра, каб мы нешта стварылі разам, а не кожны настаўнік рабіў тое самае паасобку. Тады б мелі агульны банк, а настаўнікі б маглі больш часу пакінуць на кантроль ведаў школьнікаў і якаснае засваенне. Дык вось над зместам пакуль працуюць самі настаўнікі без усякай дапамогі. І час пакажа, хто да іх далучыцца, а хто не.

Прыемна бачыць, як кожны дзень на ютуб-канале Міністэрства адукацыі Украіны выкладаюць відэаўрокі па ўсіх прадметах. Аказалася, для настаўніка гэта не цяжка — падрыхтаваць і правесці адзін урок на дзень. І для тэлевізіі не складана запісаць гэты ўрок і выкласці ў сетку. У нас бы тое самае маглі зрабіць шматлікія структуры — абы ім не перашкаджалі. І мы б мелі класныя відэазапісы па ўсіх прадметах як для вучняў, так і прыклады для маладых настаўнікаў.

Крызіс у адукацыі, які справакавала пандэмія каронавіруса, можна разглядаць з розных бакоў. Але любы крызіс стварае не толькі праблемы, а яшчэ і магчымасці. Хочацца верыць, што ахвяры, якіх мы не здолелі абараніць ад каронавіруса, не будуць марныя. І мы — і настаўнікі, і бацькі, і ўсё грамадства — зробім высновы і пачнём дзейнічаць больш адказна і рашуча. Прынамсі, у адукацыі.



**Пра аўтара:**

Тамара Мацкевіч, педагог, грамадская актывістка, намесніца старшыні Таварыства беларускай школы, рэдактар сайту nastaunik.info. Нарадзілася 31 ліпеня 1964 года на Лепельшчыне. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і аспірантуру пры ім. З 1986 па 2003 год працавала ў Акадэміі навук у Інстытуце электронікі. У 2003 годзе перавялася ў Беларускі гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, дзе працавала метадыстам, выкладчыкам фізікі. З 1999 года – каардынатарка праграмы «Настаўнік. Школа. Грамадства». Займаецца метадычнай і грамадзянскай адукацыяй настаўнікаў.

Беларусь
Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

6–7 ХЛЕБНЫЯ МЕСЦЫ



8 МУКА — БЕЛАЯ СМЕРЦЬ?
ЗА АПОШНІЯ 20 ГАДОЎ БЕЛАРУСЫ СТАЛІ ЕСЦІ ХЛЕБА ІСТОТНА МЕНЕЙ

# Каронавіруса сцеражыся, а жыта сей!

Павел КІРЫЛАЎ

**Сітуацыя з каронавіруснай інфекцыяй негатыўна адаб'ецца на ўсіх галінах эканомікі — на сельскай гаспадарцы і рынку харчавання ў тым ліку. Але каронавіруса пільнуйся, а жыта сей! Кліматычныя змены таксама нясуць аграсюрпрызы. «Новы Час» згадвае мінулыя «бітвы за ўраджай» у Беларусі і разбіраецца ў прагнозах на сёлетнюю.**



**Культавай мэтавай лічбай па ўраджаі акрэсленыя 10 мільёнаў тон. Пра іх марыў яшчэ Пётр Машэраў, кіраўнік БССР**

Прадстаўнікі сусветнай харчовай праграмы ААН ужо заявілі, што COVID-19 ускладніць сітуацыю з голадам на планеце. Зрэшты, Беларусі голад не пагражае, бо значную частку прадукаванага харчавання мы экспартуем, а таму сябе забяспечым. Праўда, вось збожжа, напрыклад, ва неўрадлівыя гады закупляць у розных аб'ёмах даводзіцца. А збожжа — гэта не толькі хлеб у крамах, але і розныя крупы з макаронамі. А яшчэ корм птушкам і жывёлам, якія ў сваю чаргу даюць мяса, малако, яйкі.

## Ад азімых да яравых

Іншая справа, што ў Беларусі, па старой завядзёнцы, пасяўная і жніво — працэс не толькі сельскагаспадарчы і агулам эканамічны, але і сапраўдная піяр-палітычная кампанія. Адгукаецца аграрнае мінулае кіраўніка краіны, які зрабіўся кіраўніком краіны з пасады дырэктара саўгасу. Ну і аграсектар — адзін з ключавых у беларускай эканоміцы. Кіраванне ім вядзецца часта ў ручным рэжыме і з камандна-рытарычным надрывам. Сёлетняя сяўба не стала выключэннем. А тут яшчэ каронавірус дадаў ажыятажу. І Аляксандр Лукашэнка чакана прамовіў сваю традыцыйную ўстаноўку: «Увесь цыкл сельгаспрацаў цягам года ўзяць пад найжорсткі кантроль».

У сярэдзіне сакавіка заяўлялася, што ўмовы ідэальныя, таму што «пры высокіх тэмпературах узімку ішлі дажджы, а таму пры адсутнасці снегу вялікі запас вільгаці ў глебе». Але сітуацыя хутка змянілася, бо дажджоў практычна няма. Дэфіцыт вільгаці на фоне высокіх атмасферных тэмператур, якія прыпадалі на час актыўнай вегетацыі і наліву зерня, быў праблемай і мінулымі некалькімі гадамі. Выйсце — больш шырокае выкарыстанне агратэхнічных захадаў дзеля захавання вільгаці ў глебе, а таксама дадатковыя падкормкі пасля ападкаў. А таксама больш ранняя і хуткая сяўба. Сёлета, напрыклад, яна пачалася на паўтара тыдні раней, чым летась.

У адмысловым Працоўным плане Мінсельгасхарчу важнасць своечасовай сяўбы абгрунтавана адмысловцамі Навукова-практычнага цэнтру Акадэміі навук па земляробстве. Аптымальны яе тэрмін пачынаецца з моманту прасыхання верхняга слоя глебы да мяккапластычнага стану (як толькі сельгасмашыны змогуць праходзіць па полі) і ўстойлівага яго прагравання (плюс 5 градусаў на глыбіню 10 сантыметраў). Сяўба цягам 7–12 дзён пасля выспявання мінеральнай глебы ў большасці яравых культур не прыводзіць да зніжэння ўраджайнасці. А вось далейшае прамаруджванне на кожныя суткі нясе страту 1 цэнтнера ўраджаю з гектара. Апрача гэтага, пасеяныя своечасова збожжавы культуры менш церпяць ад шкоднікаў, больш канкурэнтныя ў барацьбе з пустазеллем і лепей спажываюць элементы сілкавання.

Глабальна на кліматычныя змены нашы аграрыі адрэагавалі тым, што сталі больш вырошчваць засухаўстойлівых і азімых збожжавых культур. Сёлета, напрыклад, у параўнанні з 2019 годам плошчы азімага кліну павялічаныя на 11%. Але ў цэлым пакуль што крыху болей засяваецца яравых збожжавых. Для «лікбезу»: азімыя — гэта расліны, якім патрэбная перазімоўка з уздзеяннем нізкай тэмпературы на раннім перыядзе росту. Сеюць іх увосень, нават і ў жніўні, а ўраджай збіраюць у наступным годзе. Азімыя выспяваюць раней і даюць большы ўраджай, чым яравыя культуры: за кошт выкарыстання запасаў вільгаці ў глебе ўвосень і ранняй вясной. З азімымі свой клопат вясной: іх трэба падкормліваць і змагацца з інфекцыямі ды шкоднікамі, якім стала прасцей перажываць цяплейшыя зімы.

## Мара Машэрава

Мы нездарма акцэнтуем увагу на надвор'і і яго сюрпрызных перападах — гэта той істотны чыннік, які гайдае ўраджайныя вынікі ў сельскай гаспадарцы Беларусі ад 6 да 9 мільёнаў тонаў збожжа. План на ўраджай–2020 — 8,1 мільёна тон, у тым ліку 6,5 мільёна тон фуражнага збожжа (то-бок, якое пойдзе на кармы жывёлам). Самы вялікі ўраджай традыцыйна чакаецца на Міншчыне — 2 мільёны тон, самы малы — на Віцебшчыне, крыху меней за 1 мільён. Пакуль гэтыя лічбы Мінсельгасхарч не карэктуе. Не б'е публічна трывогу і новы міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Крупко, прызначаны на гэтую пасаду ў сакавіку (дагэтуль ён кіраваў Нясвіжскім і Мінскім раёнамі).

Хаця адмыслоўцы ў нашым рэгіёне ўжо прадказваюць, што ўраджай будзе меншым за мінулагодні. У Беларусі летась і пазалетась было сабрана збожжавых і збожжабабовых адпаведна 7,3 і 6,2 мільёна тон у вазе пасля дапрацоўкі. Гэта адны з самых нізкіх паказчыкаў за апошнія паўтара дзясяткі гадоў. Гістарычны рэкорд быў пастаўлены ў 2014 годзе — 9,5 мільёна тон. Зрэшты, тады рэкорды ўстанавілі і амаль усе нашы суседзі: надвор'е спрыяла. Ураджайная планка ў 9 мільёнаў тон дасягалася ў Беларусі яшчэ двойчы.

Культавай жа мэтавай лічбай па ўраджаі акрэсленыя 10 мільёнаў тон. Пра іх марыў яшчэ Пётр Машэраў, кіраўнік БССР. Пры паспяховым рэфармаванні і прыстасаванні сельскай гаспадаркі да відавочных кліматычных зменаў можна замахвацца нават на 12–15 мільёнаў тон. А антырэкорд у незалежнай Беларусі быў зроблены ў 1999 годзе — усяго 3,6 мільёна тон збожжа. Тады нават «Дажынкі» ў Шклове адмянілі і правялі іх на наступны год.

А першы раз «Дажынкі» святкаваліся ў 1996 годзе. Мэтай было, па словах Лукашэнкі, паказаць, што дзяржава цэніць працу хлебаробаў і падтрымлівае іх. У культуралагічным плане гэта быў зварот да старажытных традыцый. Злыя ж языкі аналітыкаў казалі, што аўтарытарным рэжымам увогуле ўласціва відовішчна падтрымліваць культ працы. Многія кпілі з «Дажынак» за так званы агратрэш.

Сталіцамі «Дажынак» былі Столін, Масты, Нясвіж, Шклоў, Мазыр, Полацк, Пружаны, Ваўкавыск, Слуцк, Бабруйск, Рэчыца, Орша, Кобрын, Ліда, Маладзечна, Горкі, Жлобін, Гарадок... І раптам пасля 2014 года на рэспубліканскім узроўні святкаванне «Дажынак» спынілася: іх сталі адзначаць па абласцях у нейкім аграгарадку ці райцэнтры. Гэта было патлумачана ў тым ліку намерам упарадкаваць (дзякуючы «дажыначным» урачыстасцям) паболей населеных пунктаў. У сталіцах «свята працы» сапраўды наводзілі маштабны марафет, асабліва мясцовым жыхарам падабалася, што іх гарады аздаблялі ходнікавай пліткай. Апрача рамонту вуліц і будынкаў з'яўляліся новыя аб'екты інфраструктуры.

Што праўда, у гэтым годзе абласныя «Дажынкі» на Віцебшчыне пройдуць у абласным цэнтры — Віцебску, хаця ў іншых рэгіёнах святкаваць будуць у драбнейшых населеных пунктах. Напрыклад, на Брэстчыне ў Дзівіне, на Гомельшчыне — у Мазыры, на Магілёўшчыне — у Асіповічах, на Гродзеншчыне — у Скідалі, на Міншчыне — у Чэрвені. Калі, канечне, ураджай (цьху-цьху), катастрафічна не змізарнее праз спякоту ці які ўраган, а да восені ўтаймуецца каронавірус. Летась святкавалі ў Ружанах, Браславе, Петрыкаве, Смаргоні, Барысаве і Глуску.

А вось ад селектарных нарадаў і інспекцыяў у палях падчас жніва кіраўнік Беларусі не адмаўляецца. І ўборка ўраджаю па-ранейшаму мае піяр-фармат «бітвы за ўраджай». Хаця сам Лукашэнка летась заўважыў, што ўжо можна так не казаць, бо цяпер маецца ўся неабходная сельгастэхніка — і ў належнай колькасці, і ў адпаведныя тэрміны. Тым не меней, год таму ён даручыў курыраваць жніво не толькі прэм'ер-міністру Сяргею Румасу і разнастайным кантралёрам, але і, дзеля парадку, кіраўніку Міністэрства ўнутраных спраў Юрыю Караеву.

Сёлета, у год прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, перамагаць у «бітве за ўраджай» улады будуць не менш галосна. Каравай, каравай, каго скажуць — выбірай!

Мірaслаў ГАЖЭЦКІ

# Хлебныя месцы

**Не ўсім жа працаваць у IT-сферы, так? Дый сярод прадукцыі, выробленай чалавекам, хлеб — паранейшаму ўсяму галава. Але колькі можна зарабіць, вырошчваючы і перапрацоўваючы гэтую стратэгічную прадукцыю? Сярэдні заробак у сельскай гаспадарцы за 2019 год не дацягнуў да 800 рублёў. Але ёсць вакансіі нават з удвая большым даходам.**

Адна з самых малааплатных, хаця і дастаткова запатрабаваных прафесіяў у сельскагаспадарчых арганізацыях — палявод. Прапануюцца заробкі ў сціплым дыяпазоне 375–500 рублёў. Затое можна ісці працаваць паляводам з базавай адукацыяй — то-бок, пасля 9 класаў. І многія гаспадаркі не маюць перадузятасцяў да тых, хто толькі вызваліўся з месцаў зняволення. Часта ў такіх вакансіяў нават няма патрабавання да кандыдатаў, каб «без шкодных звычак». Хіба гэта будзе ўжо ідэальны працаўнік-палявод. Дарэчы, ніжні памер заробкаў у 375 рублёў тлумачыцца проста — гэта мінімальная заработная плата ў Беларусі, устаноўленая з 1 студзеня 2020 года. На практыцы ж нярэдка бывае, што працаўнікі на вёсцы атрымліваюць на рукі істотна меней. Бо начальства знаходзіць, за што ўрэзаць заробкі.

Трактарыстаў-машыністаў сельскагаспадарчыя вытворчыя кааператывы (былыя «калгасы») клічуць на заробкі ў вялікім лічбавым калідоры — ад 500 да 1500 рублёў, як, напрыклад, паводле веснавой вакансіі СВК «Гродзенскі». Што праўда, гэта гаспадарка з топ-10 у Беларусі. Ураджайнасць збожжавых і збожжабабовых у 2019 годзе тут перавысіла 70 цэнтнераў з гектара пры сярэднім паказчыку па краіне 30 цэнтнераў з гектара. Вялікія разбежкі ў зарплатах таксама па вакансіях для аграномаў. У адной гаспадарцы галоўнаму аграному гатовыя плаціць 700 рублёў, а ў іншай памочніку галоўнага агранома — 1200 рублёў. 1500 рублёў і болей прапануюць спецыялісту па продажах прадпрыемства «Эксперыментальны завод» НПЦ Акадэміі навук па механізацыі сельскай гаспадаркі. Што да харчовай прамысловасці, у прыватнасці хлебапякарскай і кандытарскай, то ўласна пекары могуць разлічваць на заробак ад сціплых 400 рублёў у рэгіёнах да 800 рублёў у Мінску (сума залежыць ад разраду).


Фота www.dneprovec.by

### Адзінота камбайнера

Між тым, прафесіі таго самага пекара ці камбайнера досыць цяжкія. Пекар увесь працоўны дзень, а тое і ноч — на нагах, цягае цяжкія падносы і формы то з цестам, то з гатовым хлебам,

**Трактарыстаў-машыністаў клічуць на заробкі ў вялікім лічбавым калідоры — ад 500 да 1500 рублёў. Вялікія разбежкі ў зарплатах таксама для аграномаў. У адной гаспадарцы галоўнаму аграному гатовыя плаціць 700 рублёў, а ў іншай памочніку галоўнага агранома — 1200 рублёў**

# Глеба для хлеба

Павел КІРЫЛАЎ

**Беларускія сельгасугоддзі — зона крытычнага земляробства. Надвор'е рэдка які год не ўмешваецца ў планы чыноўнікаў аграрнай галіны. Але рызыкі праз яго капрызы-сюрпрызы — гэта толькі 15–20% ад чыннікаў, што ўплываюць на тое, якім будзе ўраджай. Астатнія: якаснае насенне добрых гатункаў, належныя агратэхнічныя мерапрыемствы і ўрадлівая глеба — усё гэта ў руках чалавека ў прамым і пераносным сэнсах.**

Адмыслоўцы-глебазнаўцы ацанілі ўсе землі ў нашай краіне па стопунктавай шкале. Ёсць у Жыткавіцкім і Столінскім раёнах дзірнова-карбанатная глеба, ацэненая на максімальныя 100 пунктаў, але гэта вельмі малыя суперурадлівыя лапікі зямлі. Сярэдні ж кадастравы пункт нашых ворыўных угоддзяў — мізэрны, усяго 32. Пры гэтым у нас больш за 400 разнавіднасцяў глебы. То-бок, над падвышэннем урадлівасці ворыўных земляў трэба працаваць бесперапынна, прычым улічваць асаблівасці пэўнай мясцовасці не толькі па клімаце, але і па складзе ды стане глебы. А гэта значныя фінансавыя ўкладанні на распрацоўку ўгнаенняў, іх вытворчасць і адпаведныя аграпрацы па іх выкарыстанні. Зразумела, чым менш урадлівая зямля, тым больш павінна быць датацыйная падтрымка з боку дзяржавы. Несправядліва роўна дзяліць паміж гаспадаркамі, урадлівасць глебы ў якіх можа адрознівацца ў паўтара-два разы. Без датацыяў вырошчванне збожжавых у Беларусі немагчымае. Іншая справа, што атрымліваць іх павінны на роўных умовах як «калгасы», якія ў прыярытэце аграрнай палітыкі цяперашніх уладаў, так і фермерскія гаспадаркі.

### Адстаём ад Літвы, апярэджваем Расію

З аднаго боку, аграрыі падсілкоўваюць сельгасугоддзі, а з другога — землі дэградуюць праз розныя негатыўныя прыродныя з'явы. Сотні тысяч гектараў ужо дэградаваныя праз водную і ветравую эрозіі. Траціна ад усіх сельскагаспадарчых земляў краіны — пад такой пагрозай. Гаворка пра пылавыя буры і залевы, якіх апошнімі гадамі стала значна болей. Гумус, азот ды іншыя карысныя рэчывы папросту змываюцца і выдзьмуваюцца з земляў, на якіх маглі б каласіцца жыта ці пшаніца.

У сваю чаргу, эколагі наракаюць, што дэградацыю земляў (у тым ліку глебы) правакуюць і ўгнаенні, з дапамогай якіх дасягаецца падвышэнне ўрадлівасці. Выйсце — у пашырэнні арганічнага земляробства, але ясна, што нарматывы харчовай бяспекі праз працаёмістую экалагічную сельскагаспадарчую дзейнасць не выканаць.

Ураджайнасць збожжавых і збожжабабовых у Беларусі за гады незалежнасці істотна вырасла. І ўлады казыраюць гэтым паказнікам у якасці пацвярджэння слушнасці сваёй аграпалітыкі. Але да сярэдзіны 1990-х гадоў ураджайнасць збожжа ў Беларусі стабільна была вышэйшай, чым у Літве. Аднак затым сітуацыя змянілася на карысць суседзяў за выключэннем некалькіх гадоў — 2006-га, 2008-га і 2011-га. Тая самая тэндэнцыя, калі параўноўваць з палякамі. З украінцамі па ўраджайнасці збожжавых мы канкуравалі да 2012 года, а пасля — штогод саступаем. Дарэчы, летась Лукашэнка, будучы ў Жытоміры, нават публічна выказаў здзіўленне, што Украіна, ваюючы, намалаціла рэкордныя 75 мільёнаў тон збожжа. Можна канкурэнцыйна цешыцца толькі тым, што за часы незалежнасці мы ў аніводны год не мелі ўраджайнасці з нашых палёў меншай, чым у Расіі, якая з'яўляецца адным з сусветных лідараў па аб'ёмах вырошчвання і экспарце збожжа, у прыватнасці — пшаніцы. У топе экспарцёраў таксама ЕС, ЗША, Канада, Украіна, Казахстан, Аўстралія, Аргенціна.

Дарэчы, на сусветным рынку збожжа кошты гэтай вясной пайшлі ўгару — спрычыніўся каронавірус. Экспартныя кошты выраслі праз перасцярогі, што, імаверна, парушацца лагістычныя ланцужкі з прычыны каранцінных захадаў амаль што ўсіх краінаў свету. Апрача таго, спажывецкі ажыятаж узняў попыт на печыва ды, адпаведна, муку.

**Сёлета вырашана пашырыць плошчы грэчкі, каб закрываць патрэбу краіны ў гэтых крупах. Увага да яе з'явілася таму, што ў 2019 годзе яна найбольш падаражэла**

Што да дынамікі нашай унутрыкраінавай ураджайнасці, то ў 2004 годзе пасля заняпаднага перыяду быў дасягнуты ўзровень пачатку 1990-х, які апошнімі гадамі стабільна пераўзыходзіцца прыкладна ў паўтара разы. Летась ураджайнасць збожжавых і збожжабабовых склала 30,4 цэнтнера з гектара. Лепшымі ж былі паказчыкі ў 2014 і 2015 гадах — 36,7 ц/га і 36,5 ц/га. Сярод рэгіёнаў першынствуе Гродзеншчына: у згаданыя гады ўраджайнасць тут склала 45,9 ц/га і 47,5 ц/га. У сваю чаргу, некаторыя раёны Гродзенскай вобласці мелі ўраджайнасць больш за 60 ц/га — Гродзенскі і Карэліцкі. Для параўнання, у Свіслацкім раёне ўраджайнасць удвая меншая. Хаця тамтэйшая гаспадарка СВК «Свіслач» — сярод лічаных у Беларусі, якім удавалася часам дасягаць ураджайнасці збожжавах звыш за 100 ц/га. На Міншчыне самы паспяховы Нясвіжскі раён — ураджайнасць у добрыя гады сягае пад 70 ц/га. Перадавым раёнам на Віцебшчыне — Дубровенскаму і Верхнядзвінскаму — удавалася дэманстраваць ураджайнасць за 40 ц/га. На Брэстчыне Баранавіцкаму і Ляхавіцкаму — за 50 ц/га, як і Шклоўскаму на Магілёўшчыне. На Гомельшчыне самы ўрадлівы — Мазырскі раён.

### Стаўка на трыцікале

Па вале больш за ўсё ў Беларусі збіраецца пшаніцы, трыцікале і ячменю — затым жыта, аўсу і кукурузы на зерне. Па ўраджайнасці ў цэнтнерах на гектар на першым месцы, як няцяжка здагадацца, кукуруза, затым ідуць пшаніца і трыцікале, зусім блізка — ячмень, а далей — жыта і авёс. Напэўна,

кантактуе з гарачынёй ад печак і ЗВЧ-выпраменьваннем. Верагодныя прафесійныя хваробы: алергія, рыніт, кан'юктывіт праз працу са спецыямі і мукой, варыкоз. Апрача прафесійных ведаў і навыкаў трэба мець добры нюх і вакамер. Што да камбайнераў, то афіцыйна такой прафесіі няма — гэта насамрэч «трактарыст-машыніст сельскагаспадарчай вытворчасці» пэўных катэгорый. Мінусы прафесіі — значная частка часу працы праходзіць у статычнай позе, у адзіноце, у абмежаванай прасторы ў кабіне трактара, камбайна або ў іншай сельгасмашыне. Сярод рызыкаў прафесіі называюць тое, што трактарыст-машыніст хутчэй можа пашкодзіць нешта або некага звонку, чым сябе.

Атрымаць вышэйшую аграрную адукацыю можна ў шэрагу ВНУ. Напрыклад, у Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ў горадзе Горкі на Магілёўшчыне. Тут ёсць аграномічны факультэт, на якім вядзецца падрыхтоўка па спецыяльнасцях «аграномія» і «селекцыя і насенняводства»; аграэкалагічны факультэт са спецыяльнасцямі «аграхімія і глебазнаўства», «ахова раслін і каранцін», «плодаагароднітцва», «экалогія сельскай гаспадаркі»; факультэт механізацыі сельскай гаспадаркі, які прапануе спецыяльнасці «тэхнічнае забеспячэнне працэсаў сельскагаспадарчай вытворчасці»; землеўпарадкавальны факультэт са спецыяльнасцямі «землеўпарадкаванне» і «зямельны кадастр». На іншых факультэтах вучацца на эканамістаў, бухгалтараў, юрыстаў са спецыялізацыяй на сельскай гаспадарцы.

Яшчэ тры навучальныя ўстановы для тых, хто хоча зрабіць кар'еру ў гэтай галіне або ў харчовай прамысловасці, знаходзяцца ў сталіцы, адным райцэнтры і двух абласных цэнтрах — гэта Беларускі дзяржаўны аграрны тэхнічны ўніверсітэт, Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт, Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт і Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт харчавання. Тут, напрыклад, рыхтуюць адмыслоўцаў у тэхналогіях захавання і перапрацоўкі зерня, а таксама тэхналогіях хлебапякарнай, макароннай, кандытарскай вытворчасці і харчканцэнтратаў. Улічваючы, што ў сельскай гаспадарцы адна з самых нізкіх у краіне сярэдніх зарплата, а праца дастаткова цяжкая, пры паступленні туды прахадныя балы невысокія.

Апрача таго, існуе ўстанова дадатковай адукацыі для дарослых «Цэнтр павышэння кваліфікацыі кіроўных работнікаў і спецыялістаў па хлебапрадуктах» пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання. Нарэшце, працоўныя прафесіі ў згаданых галінах эканомікі можна атрымаць у двух з паловай дзясятках каледжаў аграрнага профілю, якія пераважна знаходзяцца ў райцэнтрах па ўсёй Беларусі.

**Хлебабулачныя вырабы на паліцах крамаў — гэта прадукцыя або буйных дзяржаўных хлебазаводаў, або саміх крамаў, калі гаворка ідзе пра рытэйл-сеткі. Апошнімі гадамі ўсё болей стварэецца і прыватных міні-пякарняў і пякарняў-кавярняў**

Дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж хлебапякарства са сваімі хлебабулачным і кандытарскім цэхамі ёсць і ў Мінску: тут вучацца на пекараў, кандытараў, цеставодаў, заквасчыкаў, тэхнолагаў.

## Сам сабе пекар

Тым, хто захоча распачаць свой пякарскі бізнес, не маючы прафесійных ведаў і ўменняў, можна пайсці для ўводзінаў у прафесію на курсы пекараў і кандытараў. Яны ёсць як пры каледжах, так і пры навучальных цэнтрах з кулінарнымі школамі. Працягласць навучання — ад аднаго месяца да шасці. Кошт — ад 130–150 рублёў на месяц. Па-простаму папрактыкавацца можна на ўласнай кухні, набыўшы хлебапечку. Нават у недарагіх апаратах да 300 рублёў ёсць функцыі замесу цеста, адтэрміноўкі старту, выбару колеру скарыначкі і два дзясяткі праграм, паводле якіх можна вырабіць печыва, французскі багет, барадзінскі і жытні хлеб, кексы, безглютэнавую выпечку. Свой хлеб будзе смачнейшым за крамны. Апрача таго, з дапамогай хлебапечкі можна рабіць ёгурты і джэмы.

Хлебабулачныя вырабы на паліцах нашых крамаў — гэта прадукцыя або буйных дзяржаўных хлебазаводаў, або саміх крамаў, калі гаворка ідзе пра рытэйл-сеткі. Апошнімі гадамі ўсё болей стварэецца і прыватных міні-пякарняў і пякарняў-кавярняў. Аўтар гэтых радкоў мінулым летам пабываў у Венгрыі, дзе пакаштаваў мясцовы слодыч — кюрташкалач. У Чэхіі вы маглі яго каштаваць як трдэльнік. Узнікла ідэя арганізаваць выраб такога печыва ў Мінску, але аказалася, што якраз незадоўга да гэтага ніша перастала быць пустой.

Хаця ў Беларусі ў параўнанні з еўрапейскімі сталіцамі і тамтэйшымі малымі гарадкамі пякарняў усё адно заўважна меней. Канкурэнцыя пастаянна расце, пры гэтым беларусы сталі есці хлеба і хлебапрадуктаў меней, а таму вытворчасць хлебазаводаў кожны год скарачаецца на некалькі працэнтаў. Пры захаванні такой тэндэнцыі з цягам часу некаторыя з іх папросту зачыняцца.

Як, напрыклад, у мінулым годзе Лоеўскі хлебазавод на Гомельшчыне. Вытворчасць крызісавала паступова: спачатку быў пераход з дзвюх зменаў на адну... Лоеўскі раён — адзін з самых дэпрэсіўных у эканамічным плане ў краіне. Сярод іншых яго тычыцца і пастанова Саўміну ад снежня 2019 года «Аб зацвярджэнні плана развіцця асобных рэгіёнаў, якія адстаюць па ўзроўні сацыяльна-эканамічнага развіцця».

Між тым, закрыццё хлебазаводу ў Лоеве паспрыяла станаўленню прыватнага бізнесу сям'і Уладзіслава і Вольгі Еўграфавых, якія збіраліся было пераязджаць у Гомель, але рызыкнулі — і летась адкрылі пякарню-кавярню. Што праўда, яны пачалі працаваць за некалькі месяцаў да скону дзяржаўнага хлебазавода. На пякарскае і гандлёвае абсталяванне сышло каля 15 тысяч долараў. Назва ў пякарні-кавярні крэатыўная — «Злакавае месца», лакацыя з разлікам на пакупнікоў абраная слушна — паблізу раённай паліклінікі, асартымент разнастайны — пачынаючы ад славутага хлеба-«цаглінкі» і заканчваючы круасанамі. Паціху вытворчасць і продаж пашыраюцца. А для горада і раёна гэта новыя паўтара дзясяткі працоўных месцаў.

Чым не натхняльны прыклад змяніць хатнюю хлебапечку на паўнавартасную пякарню?

многія з вас ці не чулі, ці чулі, але не ведаюць, што такое трыцікале. А гэта папулярная апошнім часам збожжавая культура, якая з'яўляецца гібрыдам пшаніцы і жыта. І, як і яны, бывае азімай і яравой. Трыцікале валодае падвышанай устойлівасцю да халадоў і раслінавых захворванняў.

Адмыслоўцы цяпер распрацоўваюць новыя гатункі трыцікале, якія можна будзе выкарыстоўваць у хлебапякарстве. То-бок, менавіта за кошт падвышэння якасці і прадуктыўнасці трыцікале мяркуецца павялічыць вытворчасць харчовага збожжа. Яшчэ адна задача селекцыянераў — стварыць такія цвёрдазерневыя гатункі нашай мяккай пшаніцы, з якіх можна было б здабываць муку для высокаякасных макаронных вырабаў. Часткова наўзамен цвёрдым гатункам пшаніцы, якія пакуль даводзіцца закупляць, бо ў Беларусі для іх вырошчвання не пасуе надвор'е. А наогул гатункамі беларускай селекцыі ў нас цяпер засейваецца 75–80% палёў.



Фота www.newgrodno.by

Для забеспячэння ўласных харчовых патрэбаў Беларусі неабходна да 1,5 мільёна тон збожжа, якое пойдзе на хлебабулачныя вырабы і спірт. Плюс — ячмень для піваварaў. Астатні ўраджай з запланаваных сёлета прыкладна 8 мільёнаў тонаў пойдзе ў экспартаарыентаваную жывёлагадоўлю. У неўраджайныя гады, як два апошнія, збожжа даводзіцца імпартаваць з Расіі і Украіны. Напрыклад, у мінулым годзе яго было імпартавана на 220 мільёнаў долараў.

Стратэгічная дзяржзамова па збожжы складае каля 800 тысяч тон. Дзяржзамова-2020 — гэта больш як напалову пшаніца (464,5 тысячы тон), жыта (240,5 тысячы тон), авёс (44,5 тысяч тон), ячмень (30 тысяч тон), грэчка (15 тысяч тонаў), проса (2,3 тысячы тон).

Дзеля дзяржзамовы Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання ўстаноўленыя спецыяльныя закупачныя кошты. Паводле іх можа ацаніць каштоўнасць кожнага са злакаў. Піваварны ячмень будзе закупляцца па 317,46 рубля за тону, ячмень для харчовых мэтаў — па 241,31 рубля, а фуражны (кармавы) — па 193,24 рубля. Кошт харчовага жыта (для перапрацоўкі на муку) — 246,12 рубля за тону, а фуражнага — 197,49 рубля. Харчовая пшаніца будзе закупляцца дзеля дзяржзамовы па цане ад 315,93 да 394,5 рубля за тону. Розніца залежыць ад класу пшаніцы, які вызначаецца масавай доляй клейкавіны (бялковага рэчыва, што знаходзіцца ў зерні злакаў). Харчовы авёс, у залежнасці ад класу, каштуе ад 180,83 да 239,7 рубля, а фуражны — 144,89 рубля. Грэчку, зноў-такі ў залежнасці ад яе класу, закупяць па цане ад 468,9 да 566,59 рубля за тону, проса — ад 179,73 да 245,32 рубля.

Дарэчы, сёлета вырашана пашырыць плошчы грэчкі, каб закрываць больш за палову патрэбаў краіны ў гэтых крупах. Увага да грэчкі з'явілася таму, што ў 2019 годзе яна ўвайшла (разам з яблыкамі і часныком) у топ–3 прадуктаў, якія найбольш падаражэлі (грэчка — на 36%). У выніку давялося нават уводзіць часовае дзяржаўнае рэгуляванне коштаў на яе. Прычына — малы леташні ўраджай грэчкі ў Беларусі і ў Расіі. Між тым, паводле Мінсельгасхарчу, запасаў грэчкі на камбінатах хлебапрадуктаў да новага ўраджаю хопіць. Апрача таго, дастаткова збожжа маецца ў дзяржрэзерве. Так што — не прападзем.



**Макароны групы А з мукі цвёрдых гатункаў пшаніцы цэняцца не толькі за смак і эластычнасць формы, але і за нізкую каларыйнасць пры насычанасці клятчаткай. Зрэшты, дыетолагі ўсё адно раяць есці макароны ў першай палове дня, а да іх дадаваць гародніну, рыбу або курацыну**

# Мука — белая смерць?

Вольга БУЖАВА

**Збожжа — сыравіна для вырабу прадукцыі, якая амаль штодня ў рацыёне кожнай беларускай сям'і. Узяць тыя ж макароны або хлеб ды розныя булачкі і печыва. Але не ўсе яны аднолькава карысныя, а некаторыя нават і небяспечныя. «Новы Час» сабраў асноўныя рэкамендацыі медыкаў, а таксама цікавыя лайфхакі, як выбіраць і спажываць макаронныя вырабы ды хлебапрадукты.**

За апошнія 20 гадоў беларусы сталі есці хлеба істотна меней. Апошнімі гадамі яго ў сярэднім спажываецца каля 80–85 кілаграмаў на душу насельніцтва. У 2005 годзе было 102 кілаграмы, а ў 2000 годзе — 117. А вось нашы суседзі цяпер ядуць хлебапрадуктаў прыкладна столькі ж, колькі мы раней: украінцы і палякі — крыху больш за 100 кілаграмаў, а расіяне — каля 115-ці.

Скарачэнне аб'ёмаў спажывання хлебапрадуктаў — наступства моды на здаровае харчаванне. Зрэшты, шкода здароўю ідзе перадусім ад белага хлеба — батонаў і булачак, зробленых з мукі тонкага памолу. Рэч у тым, што ў такой муцэ зерне страчвае зародак і абалонку (усім вядомае вотруб'е), а застаецца толькі ўнутраная яго частка — крухмалісты эндасперм. У муцэ тонкага памолу, хаця гэта першы або дарагі вышэйшы гатункі, амаль няма клятчаткі, мінеральных рэчываў і вітамінаў. Бо іх утрымліваюць якраз зародак і абалонка зерня. У асноўным муку тонкага памолу складаюць крухмал плюс клейкавіна. Для выпечкі яна пасуе выдатна — атрымліваюцца пышныя вырабы, але гэта вялікая колькасць калорыяў і хуткія, лёгказасваяльныя вугляводы. Яны запускаюць у арганізме чалавека механізмы пераядання і, адпаведна, атлусцення. А таксама ўтварэння розных хваробаў — ад дыябету да раку. Карацей, не толькі цукар і соль, але яшчэ мука — белая смерць.

Для здароўя значна больш карысная мука грубага памолу — з цэльнага зерня (па сутнасці, гэта нават шрот). Каб наесціся, хлеба з такой мукі, багатай на клятчатку, па колькасці трэба істотна менш, чым хлебапрадуктаў, спечаных з мукі тонкага памолу. Ну і, апрача дыетычнасці, у такім хлебе захаваныя вітаміны, мінералы, амінакіслоты. Клятчатка неабходная для ачышчэння арганізму ад шлакаў і атрутных прадуктаў распаду, а таксама для сілкавання мікрафлоры кішэчніка, ад чаго залежыць стан здароўя ды імунітэт.

### Хлебныя Е

Які хлеб больш карысны: свежы ці чэрствы? Калі на ім няма цвілі, то чэрствы, бо ён лепей пераварваецца ў страўніку. А вось некалькі лайфхакаў для тых, хто хоча працягнуць набытаму ці самастойна спечанаму хлебу жыццё. Разразайце бохан чорнага хлеба ці батон не з краю, а напалам. На лусты ж затым — ад адрэзанага боку адной з дзвюх частак. Пасля гэтага самі часткі злучайце, нібы ў цэлы бохан або батон — і ў хлебніцу.

**У муцэ тонкага памолу, хаця гэта першы або дарагі вышэйшы гатункі, амаль няма клятчаткі, мінеральных рэчываў і вітамінаў. Для выпечкі яна пасуе выдатна, але гэта вялікая колькасць калорыяў і хуткія, лёгказасваяльныя вугляводы**

Вельмі часта можна пачуць парады захоўваць хлеб у лядоўні, каб ён не счарсцвеў. Дык вось, у маразілцы — так, у асноўнай частцы лядоўні — не. Пры тэмпературы 0–2°С, як на верхняй паліцы лядоўні, працэс выпарвання вільгаці з хлеба ідзе найбольш інтэнсіўна. Дарэчы, у іншыя краіны нашы хлебакамбінаты экспартуюць хлебабулачныя вырабы замарожанымі. Так званая шокавая замарозка ў спецыяльных камерах пры мінус 30 градусах павялічвае тэрмін прыдатнасці да шасці месяцаў.

Ну а самая простая парада, каб хлеб не чарсцвеў — не купляйце лішняга.

І навіна ад беларускіх навукоўцаў. У Інстытуце агульнай і неарганічнай хіміі Акадэміі навук распрацавалі вельмі карысную ў гастранамічным быце тэхналогію па вырабе пакавальнай паперы, якая працягне тэрмін захоўвання харчовых прадуктаў, у тым ліку мучных. Упакоўка будзе адмысловым чынам апрацаваная, каб падаўляць здольнасць шкодных мікраарганізмаў да размнажэння. А ў Навукова-практычным цэнтры Акадэміі навук па харчаванні наважаныя ў сваім цэху вырабляць прадукцыю для тых, хто хворы на цэліякію (гэта калі чалавек не пераносіць глютэн — бялок злакавых). Гаворка вядзецца пра безбялковыя крупы, макароны, мучныя паўфабрыкаты для выпечкі хлеба.

Што тычыцца розных дабавак-паляпшальнікаў пры выпяканні хлебабулачных вырабаў, то гэта нярэдкасць. Пачынаючы з хімічнага адбельвальніку мукі — перакісду бензаілу. Лічыцца, што ў Беларусі збольшага робіцца натуральны хлеб. Той самы культавы «Нарачанскі» гатуецца больш за паўсутак. Але хапае вырабаў з мноствам дадаткаў Е. Напрыклад, паглядзім на склад пшанічнага хлеба «Слабадскі» ад Баранавіцкага хлебазаводу — філіялу ААТ «Берасцейскі пекар». У ім паўдзясяткі дабавак з літарай Е. Сярод іх — рэгулятар кіслотнасці Е262, антыакіслялльнік Е300 і ферацыянід калію (Е536). Апошняя дабаўка не толькі гучыць страшна, яна забароненая ў шэрагу краінаў. Гэта дадатак у соль у якасці антызлежвальнага кампанента, які перадухіляе ўтварэнне камякоў. Гэты ферацыянід калію знаходзім і ў «Барадзінскім» ад мінскага хлебазавода №3. А яшчэ тут ёсць кансервант дыяксід серы. Карацей, вывучайце ўпакоўку хлеба, які вы прызвычаіліся купляць і які вам даспадобы.

### Беларусам-макароннікам

З макаронамі прасцей. Іх склад звычайна просты, як і гатаванне: мука, вада. Але могуць быць выкарыстаныя араматызатары, яйкі і малако. Самыя якасныя макароны — з мукі цвёрдых гатункаў пшаніцы, якая ў нас практычна не расце праз кліматычныя ўмовы. Усе нашы вытворцы завозяць такое збожжа з Расіі — пераважна з Алтаю. Гэта клас 1 або група макаронаў А. Ніжэй па якасці макароны класу 2 або групы Б — яны зробленыя з мяккіх гатункаў пшаніцы. Асноўны аб'ём беларускай макароннай вытворчасці — менавіта група Б. Між тым, адмыслоўцы ды гурманы кажуць, што больш карэктна было б называць гэтую прадукцыю не макаронамі, а макароннымі вырабамі. Ёсць яшчэ група В — макаронныя вырабы з хлебапякарнай мукі, ад разварвання якіх італьянцы былі б у шоку.

Самы буйны вырабнік макаронаў у Беларусі — філіял «Барымак» Барысаўскага камбіната хлебапрадуктаў з гандлёвай маркай «Пастараль». На яго прадукцыю прыпадае 70% ад усяго аб'ёму вытворчасці ў краіне. Тут працуюць швейцарская ды італьянскія лініі па вырабе макаронаў — на дзвюх прадукуюцца кароткія макароны, на адной — доўгія. На Мінскім камбінаце хлебапрадуктаў (гандлёвыя маркі «Aldente» і «Сталічны млын») і на ААТ «Лідахлебапрадукт» (гандлёвыя маркі «Pasta Vera», «Ligrano» і «Лідскія макароны») маюць па адной лініі, дзе вырабляюць кароткія макароны. Першыя беларускія макароны на аснове цвёрдых гатункаў пшаніцы пачалі выраблацца менавіта ў Лідзе. Дагэтуль якасныя макароны ў Беларусі былі прывазныя. Дарэчы, замежныя макароны, якія імпартуюцца да нас, на тры чвэрці — расійская прадукцыя: хай многія а ля італьянскія назвы гандлёвых марак вас не бянтэжаць.

Бывае, што вытворцы хітруюць і робяць для эканоміі макароны групы А з дадаваннем мукі мяккіх гатункаў пшаніцы. Як праверыць сапраўднасць макаронаў групы А (мука для іх яшчэ можа пазначацца як «durum»)? Вазьміце макароніны і згінайце іх на канцах лёгка пальцамі. Калі паломяцца, то гэта не зусім прадукцыя групы А. Яшчэ якасныя макароны групы А павінны мець гладкую паверхню, жоўты або бурштынавы колер, невялічкія ўкрапванні праз апрацоўку зерня і адсутнасць крошак у пачку. Макароны з мукі мяккіх гатункаў пшаніцы маюць бляклы ці, наадварот, надта яркі колер, шурпатую паверхню і крошкі ўнутры ўпакоўкі.

Макароны групы А з мукі цвёрдых гатункаў пшаніцы цэняцца не толькі за смак і эластычнасць формы, але і за нізкую каларыйнасць пры насычанасці клятчаткай. Зрэшты, дыетолагі ўсё адно раяць есці макароны ў першай палове дня, а да іх дадаваць гародніну, рыбу або курацыну. На ўсялякі выпадак нагадаем пра класічнае гатаванне. Макароны трэба засыпаць у падсолены кіпень у прапорцыі 100 грамаў прадукту на 1 літр вады. Варацца макароны 12 хвілін. Памешваць пастаянна не трэба — галоўнае, не даць ім прыліпнуць да рондалю. Аўтэнтычна прыгатаваныя макароны павінны быць крыху недаваранымі. Гэта стан «al dente», які дасягаецца праз варку на пару хвілін менш. І прамываць згатаваныя макароны ў халоднай вадзе не трэба — дастаткова кінуць на друшляк.

Смачна есці!

# Толькі па картках!

Алег НОВІКАЎ

**Вялікабрытанія з-за эпідэміі не на жарт абмяркоўвае пераход на карткавую сістэму для набыцця прадуктаў.**

Сярод аматараў творчасці Оруэла існуе фракцыя, не згодная з тым, што апісаная ў рамане «1984» дыктатура — алюзія на таталітарныя сістэмы Сталіна або Гітлера. Ёсць думка, што ідэю твора пісьменніку падказаў антураж пасляваеннай Брытаніі, дзе дзяржава кантралявала ледзь не ўсе сегменты грамадскага жыцця і гаспадаркі. Адным з атрыбутаў той мадэлі была карткавая сістэма, якая праіснавала ў краіне аж да 1954 года.

І вось цяпер норму, калі ўсё будзе выключна па талонах, прапануецца вярнуць. Дыскусію на гэты конт задаў лонданскі прафесар Цім Лэнг (Tim Lang), які лічыць, што без картак краіну можа чакаць калапс на глебе дэфіцыту прадуктаў. Свае высновы прафесар аргументуе лічбамі. Аказваецца, прыкладна 47 працэнтаў тавараў на мясцовым прадуктовым рынку — чысты імпарт.

Між тым, шмат краін, якія традыцыйна экспартуюць на Альбіён, знаходзяцца ў крызісе, і пастаўкі адтуль у хуткім часе могуць быць нерэгулярныя. З улікам каранціну дастаўка таксама будзе зацягвацца па часе. Такі расклад рэчаў прымушае Ціма Лэнга заклікаць урад да ўвядзення дзяржаўнага кантролю над прадуктовымі запасамі, што патрабуе як мінімум усталявання індывідуальнага ліміту на памеры спажывання.

Містэр Лэнг аказаўся не адзіны ў сваіх высновах. Яго ўжо падтрымаў цэлы шэраг іншых вучоных і экспертаў. Пры гэтым аматары картак не лічаць, што новая норма выкліча занадта моцны шок у грамадстве. Перш за ўсё таму, што такая мера будзе не першай у гісторыі. Падчас Першай сусветнай вайны брытанцы набывалі па картках цукар, мяса, алей, маргарын. У 1925-м — падчас агульнага страйку — урад, баючыся, што забастоўшчыкі заблакуюць партовыя докі, увёў нормы продажаў на шэраг базавых прадуктаў.

А вось з 1939-га па 1945-ы карткі дзейнічалі не толькі на прадукты, але нават на мыла, паліва і вопратку — з-за патрэбы ў матэрыялах для вырабу ўніформы. Эканомія на адзенні была настолькі жорсткай, што ў 1942 годзе былі ўведзеныя меры, якія абмяжоўвалі на вопратцы колькасць гузікаў і кішэняў. Увогуле, нармаванне адзення скончылася ў Англіі толькі ў 1949-м.

Цікава, што нормы спажывання прадуктаў не былі ўзятыя са стoлі. Напрыканцы 1939-га сям'я фізіёлагаў вырашыла правесці над сабою эксперымент.



Фота www.respublika11.ru

Муж і жонка вырашылі распрацаваць дыету, якая дазволіць сярэднюму брытанцу жыць і працаваць у час вайны. Пасля трох месяцаў вопытаў над арганізмам паўстала чароўная формула.

Выглядала яна прыблізна так: 450 грамаў мяса і 113 грамаў смажанай рыбы на тыдзень, чвэрць пінты малака і 113 грамаў маргарыну на дзень. Плюс дазвалялася ўжываць любую колькасць бульбы, гародніны і хлеба з нясеянай мукі. Дыету хутка зацвердзіў урад, адначасова запатрабаваўшы ад брытанцаў прыпісацца да суседняй крамы. Там яны атрымлівалі і атаварвалі свае карткі.

Лічыцца, што рацыянаванне прадуктаў падчас вайны было вялікім поспехам для Брытаніі. У той час, як у часе вайны ў свеце ад недаядання загінулі не менш за 20 мільёнаў чалавек, брытанцы больш-менш выжывалі, атрымліваючы неабходныя для арганізму рэчывы. У гэты час адной з функцый Міністэрства харчавання стала папулярызацыя страў, якія можна зрабіць з небагатага набору прадуктаў. Напрыклад, маркоўныя піражкі або торт з гародніны.

**Нягледзячы на мінулы пазітыўны вопыт, цяжка ўявіць, як карткавую сістэму можна перанесці ў цяперашнюю Брытанію. Маркоўныя піражкі на далікатэс не цягнуць**

Адначасова адсутнасць мяса было вырашана кампенсаваць гароднінай. У 1942-м у краіне быў адкрыты «садовы фронт», куды запісалі аж палову насельніцтва. Яго чальцы перарабілі пад агароды газоны, клумбы, плоскія дахі, а таксама варонкі ад бомбаў. Нават роў славутага лонданскага Таўэра выкарыстоўваўся ў часы вайны для вырошчвання нейкіх зёлак.

Нягледзячы на мінулы пазітыўны вопыт, усё ж цяжка ўявіць, як карткавую сістэму можна перанесці ў цяперашнюю Брытанію. Не толькі таму, што маркоўныя піражкі на далікатэс для сучаснага брытанца не цягнуць. Нармаванне прадуктаў аўтаматычна патрабуе закрыцця ўсяго рэстараннага бізнесу, як было ў час вайны.

У разе лімітавання спажывання краіне, напэўна, давядзецца змагацца са шматлікімі злачынцамі, якія будуць намагацца абысці новыя правілы. За часы Другой сусветнай вайны ў Брытаніі было распачата прыкладна 115 тысяч крымінальных спраў за парушэнне карткавай сістэмы — ад падробкі картак да крадзяжу нявыкарыстаных харчовых кніжак. Прычым, як вызнаюць сучаснікі, у падобных справах масава ўдзельнічалі звычайна законапаслухмяныя падданыя Кароны.

Так ці інакш, пасля сакавіцкай панікі сёння ў брытанскіх крамах назіраецца адносная стабілізацыя. Буйныя супермаркеты здолелі аператыўна наладзіць ланцужкі харчовага забеспячэння. Адначасова, на ўсялякі выпадак, склады ўкамплектавалі вялікімі запасамі. Гэта ўзмацніла лагер тых, хто выступае супраць абмежаванняў.

Праўда, нават аптымісты прызнаюць, што апошнім часам з'явіўся цэлы набор неспрыяльных фактараў, якія з часам могуць мець негатыўныя наступствы для брытанскага харчовага рынку. Гэта і недахоп працоўнай сілы ў сельскай гаспадарцы ў шматлікіх краінах-экспарцёрах, і магчымыя экспартныя забароны, якія могуць быць уведзеныя краінамі. Таму магчымасць увядзення карткавай сістэмы катэгарычна ўсё ж ніхто не адмаўляе.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Туалетная папера заканчваецца

Украінскае выданне «Факты» шакавала насельніцтва навіной — запасаў сыравіны для вытворчасці туалетнай паперы ва Украіне хопіць толькі на 10 дзён. Публікуючы такі апакаліптычны сцэнар, «Факты» спасылаюцца на мясцовых вытворцаў. У сувязі з каранціннымі абмежаваннямі, якія ўвялі для барацьбы з распаўсюдам вядомага захворвання, некаторыя прадпрыемствы перасталі атрымліваць сыравіну для вытворчасці ў выглядзе макулатуры. Менавіта з макулатуры, як высвятляецца, вырабляецца туалетная папера. Выданне не прагназуе хуткі дэфіцыт тавару, які і так з'яўляецца прадметам павышанага попыту, аднак пры гэтым заклікае больш эканомна ставіцца да неабходных рэчаў, у прыватнасці — да туалетнай паперы. Зрэшты, урад лічыць, што сітуацыю можна выратаваць. Украінскі Кабмін заявіў пра адмену абмежавальных мераў для прадпрыемстваў па зборы адходаў. Між тым, панікёры, якіх хапае ў кожным грамадстве, ужо чакаюць мабілізацыі ўкраінцаў для збору макулатуры.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Ахвяраў камунізму дадалося

«Фонд памяці ахвяр камунізму» — арганізацыя, якая працуе пад патранажам Збігнева Бжэзінскага, зрабіла незвычайную заяву. Фонд вырашыў лічыць усіх, хто памёр ад каронавіруса, ахвярамі... камунізму. Падставай для такой заявы стала прыналежнасць усяго кіраўніцтва Кітаю да мясцовай кампартыі. Паводле фонду, камуністы загадалі схаваць усю інфармацыю пра вірус на пачатковых стадыях эпідэміі, што ў выніку і справакавала глабальную трагедыю. З улікам усяго гэтага «Фонд памяці ахвяр камунізму» прылічыў каля ста тысяч чалавек — усіх памерлых ад каронавіруса ў свеце — да ста мільёнаў, якіх камуністы забілі ў розных краінах за ўсю гісторыю свайго існавання. Логіка развагаў фонду выглядае шмат для каго дзіўнай. У галаву не ўкладаецца, што людзі па ўсім свеце паміраюць не ад віруса, а ад камунізму. Акрамя таго, амерыканская разведка, калі верыць прэсе, ужо ў лістападзе 2019-га інфармавала Белы дом пра нейкую дзіўную хваробу ва Ухані, безвынікова прапануючы ўвесці каранцінныя захады. З іншага боку, заява фонду падтрымлівае хайп у прэсе наконт таго, каб засудзіць Кітай за эпідэмію. Ідэю выставіць Пекіну рахунак (лічыцца, што сума кампенсацыі за каронавірус можа дасягаць некалькі трыльёнаў долараў) вельмі папулярная сярод амерыканскіх палітыкаў, у тым ліку высокага ўзроўню.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ТУРЦЫЯ. Не падзялілі Арарат

Эпідэмія эпідэміяй, аднак пра пільнасць забываць нельга. Напэўна, такім дэвізам кіраваліся турэцкія дыпламаты, якія сарвалі жудасную правакацыю супраць цяперашніх межаў краіны. У МЗС Турцыі звярнулі ўвагу на надпісы на скрынках з кітайскай медычнай дапамогай у Арменіі. «Няхай нашае сяброўства будзе вышэй за гару Арарат і даўжэй за раку Янцзы», — напісалі кітайцы, што і стала падставай для дыпламатычнага скандалу. Арарат, які згадваецца ў Бібліі, цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Турцыі. Між тым, у суседняй Арменіі гара лічыцца нацыянальным сімвалам і нават выяўлена на гербе дзяржавы. Пагроза аднаўлення армянскага суверэнітэту над Усходняй Анатоліяй, якая была ў складзе старажытных армянскіх дзяржаў, заўжды непакоіла Анкару, што яшчэ раз давёў выпадак з надпісамі на кітайскай гуманітарцы. Зрэшты, кітайскі пасол, як сапраўдны дыпламат, спрытна саскочыў з тэмы ды пераклаў адказнасць за надпісы на неадукаваных суайчыннікаў з правінцыі, якія рыхтавалі груз.

**Паводле армянскай прэсы**

### ІНДЫЯ. Прымусіць паважаць каранцін

Арыгінальны сродак барацьбы з парушальнікамі рэжыму каранціну прыдумалі ў Індыі. Яго ахвярамі сталі прыкладна сто турыстаў з Еўропы і Аўстраліі, якія днямі вырашалі наведаць адзін з Ашрамаў (месца паломніцтва прыхільнікаў індуізму). Пры гэтым яны дэманстратыўна праігнаравалі рэжым каранціну, які дзейнічае ў Індыі. Каб пакараць парушальнікаў, камандзір паліцэйскага патруля, што затрымаў інтурыстаў, запатрабаваў, каб яны 50 разоў напісалі фразу: «Я парушыў правілы каранціну і цяпер за гэта мяне вельмі соранма». Паліцэйскі лічыць, што такое пакаранне будзе добрым урокам для парушальнікаў. Увогуле, турыстам пашанцавала. У Індыі назіраецца сапраўдная вайна паміж паліцыяй і тымі, хто не паважае каранцін. На мінулым тыдні паліцыя забіла чалавека, які намагаўся наведаць краму. У іншым горадзе быў моцна збіты не толькі парушальнік, але і ўсе яго сямейнікі. Трэба дадаць, што працаўнікі самаізаляцыі ў Індыі — таксама яшчэ тая публіка. У нейкім месцы афіцэру, які патрабаваў паважаць правілы каранціну, адсеклі руку. Зрэшты, часам гвалту атрымліваецца пазбегнуць. Афіцэры паліцыі ў некаторых раёнах Індыі прымушалі людзей у якасці пакарання прысядаць, танчыць, спяваць або скакаць.

**Паводле брытанскай прэсы**

Гэты артыкул нам прапанаваў беларускі мастак, уладальнік найвышэйшай узнагароды ў галіне кніжнага мастацтва ў Беларусі — дыплома і медаля імя Францішка Скарыны, лаўрэат прэміі Беларускага Фонду імя Тадэвуша Касцюшкі, пераможца конкурсу «Вечныя месты», сябра Саюза мастакоў Мікола Купава. Першапачаткова артыкул называўся «Несказанае слова на з'ездзе Беларускага саюза мастакоў». Але сітуацыя закранае не толькі чальцоў БСМ. Бо менавіта нам жыць у асяроддзі, якое для нас ствараюць мастакі, і мы таксама хочам, каб нашы гарады і мястэчкі ўпрыгожвалі годныя помнікі і скульптуры.

# Беларускі

Мікола КУПАВА

**Стан сучаснай беларускай манументальнай скульптуры выклікае трывогу, і ўжо даволі працяглы час. Занадта шмат набралася негатыву і горкіх праблем у галіне гэтага віду мастацтва. З відавочнымі памылкамі і недаробкамі мы сустракаемся штодня. І бачым, што пры мінімальных, удумлівых і своечасовых захадах эфект быў бы станоўчы.**

## Цэнтральная фігура Скарыны

Пачнём агляд з самага фундаментальнага твору нашай манументальнай скульптуры — з помніка Францыску Скарыну ў Полацку. Манумент спраектаваны і ўсталяваны ў эпоху стагнацыі, аднак скульптар праекта — вядомы мастак, які фактычна падняў тэму Скарыны на еўрапейскі ўзровень, Аляксей Глебаў — стварыў выдатны праект. Але яму не хапіла часу на ажыццяўленне пластычнай задумы. Завяршалі помнік іншыя скульптары і архітэктары. А для архітэктараў усё адно — што Скарына, што Калінін. П'едэстал Скарыны абліцаваны пліткай. Пастамент не нясе ніякай праграмы, не стварае ніякай падтрымкі помніку, ставіць яго ў агульны шэраг прахадных савецкіх праектаў.

П'едэстал — вельмі важны элемент манумента, гэта яго праграма і развіццё тэмы. У нашым выпадку ў Скарыны цалкам адсутнічае п'едэстал, калі яго разглядаць як важны элемент манумента. Мы ведаем выпадкі, калі праз нейкі час помнікі ўдасканальвалі, нават перамяшчалі ў іншае месца.

Улічваючы набліжэнне 500-х угодкаў вяртання Скарыны на Радзіму, заснавання друкарні і кнігадрукавання ў Вільні, падзея будзе шырока адзначацца ў Беларусі і Літве, і шырэй — у свеце.

Полацкаму гарвыканкаму варта аб'явіць конкурс на стварэнне п'едэстала для манумента Скарыну і цягам 3–4 гадоў правесці рэканструкцыю помніка, паставіць яго перад гасцініцай, пазбегнуўшы эфекту контражуру, які цяпер існуе, і не дазваляе бачыць помнік нармальна асветленым на працягу большай часткі дня. Такія захады неабходныя дзеля ўзвелічэння вобраза Скарыны і яго ролі ў нашай гісторыі і культуры.

З 2006 года помнік Скарыну ўпрыгожвае мікрараён Мінска ля Нацыянальнай Бібліятэкі. Цалкам гэтая кампазіцыя ўдалая. Помнік аказаўся пасаджаным на сваім месцы. Створана сучасная пластычная сітуацыя. Аўтар манумента — скульптар Алесь Дранец. Але ўжо пасля адкрыцця помніка аказалася, што ён нясе ў сабе, як мінімум, тры грубыя памылкі. На п'едэстале паказаны віды ключавых гарадоў, з якімі звязаны жыццё і дзейнасць Скарыны: Полацк, Кракаў, Падуя і Прага. Трэба разумець, што, паказваючы Полацк таго часу, скульптар абавязаны быў падаць самыя вядомыя мясціны горада канца XV — пачатку XVI стагоддзя: замак і храм Сафіі. Мастак гэтак і зрабіў. Але Сафію Полацкую скульптар адлюстраваў у выглядзе баракальнага храму, якім яна стала ў другой палове XVIII стагоддзя. Гэта ўжо базіліка віленскага барока архітэктара Глаўбіца. І зусім іншая эпоха!

Дарэчы, і ў інтэр'ерах Нацыянальнай бібліятэкі нямала выяваў Сафіі XVIII стагоддзя. Становіцца зразумела, што многія мастакі і не падазраюць, што Сафія ў сваім візантыйскім выглядзе вычарпала свае існаванне і ў канцы XV стагоддзя і была перабудаваная ў новы храм. У пачатку XVI стагоддзя гэта была ўжо святыня абарончага тыпу з рысамі гатычнага стылю. Такой Сафія паказана на гравюрах і малюнках Полацка таго часу. А напачатку XVIII стагоддзя жаўнеры Пятра I узарвалі гэты храм. І толькі ў 1750 годзе Сафія Полацкая, паводле праекта архітэктара Глаўбіца, была адбудаваная ў выглядзе базілікі.

Ад часоў Скарыны да базілікі віленскага барока было яшчэ 250 гадоў!

Як вядома, Скарына вучыўся ў Вільні ў юным узросце, пазней жыў там. У Вільню Скарына вярнуўся пасля 1521 года і ў 1522 годзе заснаваў першую на Радзіме друкарню, дзе выдаў «Малую падарожную кніжку» і «Апостала». У Вільні Скарына рэдагаваў Першы Статут ВКЛ, які быў уведзены ў жыццё ў 1529 годзе. Вільня была сталіцай ВКЛ і ў ёй праходзілі ўсе найважнейшыя палітычныя, культурныя і навуковыя падзеі не толькі нашай Радзімы, але Усходняй і Заходняй Еўропы. Пра Вільню і Скарыну напісаны тамы кніг, роля Вільні ў лёсе Скарыны — агульнавядомая. Але на п'едэстале помніка нашаму асветніку побач з Полацкам, Прагаю і Кракавам адсутнічае Вільня! Абуральны факт! Мы маем права патрабаваць выпраўлення такой недарэчнасці.


Помнік Скарыне ў дворыку БДУ Мінск

Ці памылка аўтара помніка таму віною, ці іншыя прычыны, але ў большай ступені адказнасць за гэтую недарэчнасць нясуць Міністэрства культуры і мастацкі савет гэтага ведамства, якія далі зялёнае святло праекту менавіта ў такім выглядзе.

І трэцяя праблема. Калі за плячыма Скарыны былі поле і далёкі штрых лесу, помнік меў усе рысы манументальнасці. Сёння ж за Скарынам вырас дом з нахільным фасадам. І такое ўражанне, што будынак падае на Скарыну, а вокны дома ствараюць дробную мітусню, якая адмоўна ўплывае на ўстойлівасць манумента. Цяпер да праблем, узніклых у выніку дзейнасці аўтара і былых Міністэрства культуры і мастацкага савета, дадалася праблема бяздумна спланаванага і збудаванага дома за помнікам.

Надалей так пакідаць сітуацыю з помнікам немагчыма. Яе трэба тэрмінова мяняць. Помнік Скарыну ў Мінску — патэнцыйна адзін з лепшых манументаў у нашай краіне, і мы павінны ліквідаваць недахопы, якія замінаюць яму быць такім на самай справе і стаць сімвалам Беларусі.

Для гэтага Міністэрству культуры і Мінгарвыканкаму трэба прыняць рашэнне пра рэканструкцыю манумента. Калі пакласці яшчэ адзін куб граніту ў п'едэстал, тады ён набярэ сваю неабходную вышыню, можна будзе паправіць і выяву Полацка, і размясціць рэльеф Вільні.

Пры ўсёй праблемнасці фону для манумента, помнік застаецца на сваім месцы. Тут ён ужо вырашыў пластыку горадабудаўнічай, урбаністычнай праблемы. Помнік добра мадэляваны сучаснай пластычнай мовай.

Але для таго, каб яго адздзяліць ад таго дому, які сапсаваў ландшафт горада, варта насадзіць малады дубовы гай, які з цягам часу стане выдатнай зялёнай дубровай і годным фонам для Скарыны. Дзякуй Богу, места за помнікам пакуль вольнае. Але напачатку трэба спраектаваць дуброву Скарыны. Спадзяемся, што Мінкультуры санкцыянуе рэканструкцыю помніка. А генеральным партнёрам рэканструкцыі манумента стане Беларускі саюз мастакоў.


Помнік Скарыну каля Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску

## Без пастаменту

Ад нейкага часу ў Беларусі пачалі ўзводзіць помнікі альбо зусім без пастаменту або на мінімальна нізкім узвышшы, што стварае адчуванне незавершанасці аўтарскай задумы.

Гэтак здарылася з помнікам Максіму Багдановічу. Некалі архітэктар, які дапамагаў усталяваць помнік, вырашыў так, практычна без яўна відавочнага пастаменту, без усялякага лейтматыву, без неабходнай праграмы, пусціць у свет вобраз вялікага паэта. Пры яго пераносе ў іншае месца можна было б гэтую памылку выправіць. Пра гэта было сказана ўплывовым скульптарам, ад якіх нешта залежала, але... нічога не змянілася.

Помнік Усяславу Полацкаму паставілі ў выпадковым месцы, на выпадковай падстаўцы, ад чаго і маштаб самога помніка мяняецца, не адпавядае ролі і вазе героя ў гісторыі Полацкага Княства. Дарэчы, ні творцы, ні начальнікі ад культуры, ні ўлады Полацка не ўяўляюць, які ён быў у X–XII стагоддзях, і мераюць яго значэнне сённяшнім маштабам райцэнтру.

Полацк — адмысловы горад у нашай гісторыі. Гэта сталіца нашай старажытнай дзяржавы. І мы павінны да яго ставіцца належным чынам, весці адпаведную культурную палітыку. Полацк трэба адбудоўваць, адналяць, ствараць адмысловую гарадскую інфраструктуру, культуру, вобраз горада. Ён у часы Усяслава, нават па еўрапейскіх мерках, быў мегаполісам. У XI стагоддзі Пскоў займаў 60 га, Кіеў — 120 га, а Полацк — 200 га, і вядомы з VII стагоддзя. Мы павінны ацэньваць ролю кожнага нашага горада за яго рэальную вагу ў нашай гісторыі, а не па тых параметрах, якія характарызуюць іх на момант выхаду краіны з абдымкаў царызму. Таму, дарэчы, на Полацкім замчышчы, як і на іншых гістарычных аб'ектах праектаваць будаўніцтва нейкай спаруды — злачынства. Важна, каб і гарадскія начальнікі былі на вышыні маральнай і культурнай адказнасці.

У Мінску, між іншым, ёсць помнік Еўфрасінні Полацкай. Але хто можа яго паказаць? Вобраз прыгожы, канцэптуальна і пластычна вырашаны ўдала. А л е

# скульптурны крызіс

помнік зусім без пастамента, не мае аніякага архітэктурнага рашэння, і наогул схаваны ў кусты каля нейкіх выпадковых будынкаў на праспекце Незалежнасці.

А на рагу Траецкага прадмесця напачатку 1990 гадоў усталяваны помнік Язэпу Драздовічу. Гэта дыпломная работа Ігара Голубева — значыць, станковая скульптура, або толькі праект помніка. Кампазіцыя, з прафесійнага пункту гледжання, арыгінальная і глыбокая па змесце. Але каб таму праекту быць помнікам, яго трэба павялічыць у 3–4 разы. Месца, дзе ўсталяваны помнік, ні па якіх параметрах не пасуе ні для якога манументу. Тут відавочная непрафесійная праца па ўладкаванні помніка. Яго архітэктурным фонам з'яўляецца ўнутраны падворак квартала, які ў 1975 годзе быў знесены. А потым была дабудаваная камяніца, якая выканана зусім не ў стылі, без разумення гэтай архітэктуры.

Мала гэтых праблем, дык помнік пастаўлены невядома на што, з чаго ўжо асыпаюцца керамічныя пліткі. Пахабная праца, безадказныя адносіны. Над помнікам красуецца рэклама «Kuraje». Ніхто гэтага не бачыць, ніхто не разумее праблемы, і, галоўнае — ніхто не адказвае за стан помнікаў культуры ў сталіцы!

Помнікам Драздовічу, яго лёсам павінен заняцца сам аўтар. Але пачакаем, як будуць адноўленыя (рэстаўраваныя) будынкі ўніяцкага кляштара на рагу вуліц Багдановіча і Купалы. Мяркую, што помнік Драздовічу можна будзе ўсталяваць там. Менавіта з гэтага месца мастак зрабіў свой вядомы малюнак Верхняга места. Але скульптар Голубеў цяпер павінен прайсці гэты неабходны шлях па стварэнні сапраўднага, маштабнага помніка Драздовічу — вартага і неабходнага элемента горада, урбаністычнай культуры Мінска.

Аўтару для гэтага патрэбная дапамога з Мінкультуры і Мінгарвыканкаму. Для гэтага варта хоць раз убачыць помнік разам з «Куражом».

## Манументы Верхняга гораду

Як вядома, прынята рашэнне пра збудаванне ў Мінску помніка мінскаму князю Глебу (Готлібу) і вызначана для гэтага месца ў Верхнім горадзе. Конкурс адбыўся, і ёсць пераможца. Аднак у гэтай ініцыятыве маецца некалькі невырашальных праблем. Па-першае: князь Глеб — не тая фігура, што можа прэтэндаваць на гэтую пляцоўку. Ён ніяк не звязаны з Верхнім местам — не было яго пры жыцці Глеба. Гэта новая ўрбаністычная пляцоўка, якая пачала складвацца толькі ў XVI стагоддзі. Князь жыў у гарадскім замку, які знаходзіўся ў Ніжнім горадзе. Таму лагічна ўзводзіць помнік Глебу ў комплексе з аднаўленнем замку (яго важных фрагментаў). Зразумела, калі замчышча забудаванае і праз яго пракладзеная магістраль, трэба шукаць кампрамісныя рашэнні.



Полацк. Помнік Ф. Скарыну. А. Заспіцкі, А. Глебаў, І. Глебаў

Помнік Глебу можна ўзводзіць, увязваючы яго толькі з Ніжнім местам, замкам. Верхні горад — места для помнікаў вялікім князям Альгерду, Вітаўту, Жыгімонту І, канцлеру Мікалаю Радзівілу Чорнаму, найвышэйшым гетманам ВКЛ Канстанціну Астрожскаму, Юрыю Радзівілу, Мікалаю Радзівілу Рудому, Янушу Радзівілу, Яну Ходкевічу, якія мужна баранілі Айчыну ад ворагаў і прынеслі ёй свабоду і славу. У Мінску дагэтуль няма манумента Свабоды. Над гэтым праектам пачынаць працу трэба ўжо цяпер. І месца яму — плошча Свабоды. А пералічаныя вышэй героі нашай гісторыі — па праву галоўныя вобразы ў аснове помніка Свабоды.

Зразумела, пастаўленыя праблемы тычацца кампетэнцыі горада і Міністэрства культуры. Пра гэта ў свой час будзе агучана прапанова ў Міністэрстве культуры. Але ж і самі скульптары не павінны спаць у шапку.

А што ўлады горада нарабілі сёння на плошчы Свабоды — мы бачым, і ўжо спакойна за гэтым назіраць немагчыма. На плошчы хаатычна расстаўленыя прадметы дробнай пластыкі: і помнік безыменнаму войту, і змучаныя коні ва ўпражы, і вагі — экспанаты для невялікай замкнёнай прасторы: альбо для падворку музея, альбо для экспазіцыі музея. Маштабам вылучаецца толькі фігура войта. А ўсцяж гандлёвых шэрагаў (віленчукоў — так яны зваліся ў час іх росквіту) выстаўлены нейкія бляшаныя дэкарацыі. Гэта ўжо поўная недарэчнасць і безгустоўшчына.

Такім чынам Верхняе места ператворана ў пластычны і сэнсавы балаган. Да таго ж у напісанні рэкламы ўжываецца руская мова з выкарыстаннем літары «Ъ», дарэформенны варыянт правапісу, што сведчыць пра імперскую скіраванасць арандатараў рэстаранных устаноў, якія атрымалі чужыя архітэктурныя помнікі ў часовае карыстанне. Беларуская мова, якая магла б стварыць тут адмысловы беларускі каларыт і вобраз, амаль зусім адсутнічае.

Аўтэнтычная тут толькі беларуская архітэктура, якая чакае сапраўднай рэстаўрацыі і аднаўлення. На плошчы Волі нядаўна ўсталявалі помнік Він-



Помнік Максіму Багдановчу



Помнік Ефрасінні Полацкай у Мінску

цэнту Дуніну-Марцінкевічу і Станіславу Манюшку. Помнік наводзіць на добрыя думкі і праменіць душэўнай цеплынёй. Тое наша культура, беларуска-літоўскі дух. Гэтыя героі тут жылі, вучыліся і працавалі; тут зусім блізка стаяў будынак, дзе яны паставілі сваю аперэтку. І гэта вельмі кранальны сюжэт, таму што ён — жывая гісторыя. На жаль, і ў помніку Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу і Станіславу Манюшку захавалася тэндэнцыя неразвітага п'едэсталу.

Верхні горад у Мінску — унікальная пляцоўка паводле свайго гістарычна-культурнага зместу і, галоўнае, напоўненасці помнікамі архітэктуры, уключна з тымі, якія былі злачынна знесеныя ў 1948–1952 і 1960-х гадах: Дамініканскі касцёл з будынкамі кляштара, вежа-званіца (з гадзіннікам) езуіцкага комплексу, Бенедыктынскі касцёл, знявечаны ў XIX стагоддзі, але прастаяў аж да сярэдзіны 1960-х.

Гэтыя помнікі былі знішчаны пасля атрымання ад Германіі кантрыбуцыі на іх аднаўленне. Іх цяпер вельмі нестае. Яны пашыралі межы самой плошчы і рабілі яе яшчэ больш змястоўнай. І што таксама важна — помнікі былі сувяззю з хрысціянскім светам, бо належалі хрысціянскім канфесіям. Аднаўленне помнікаў на плошчы Свабоды стане вялікай, важнай і справядлівай акцыяй у дачыненні да пакалечанай, абражанай беларускай культуры, і маральнай кампенсацыяй усёй краіне, якая падвяргалася знішчальнаму царскаму і бальшавіцкаму нашэсцю. Ужо цяпер неабходна складаць праект Генеральнай рэканструкцыі ўзнаўлення і развіцця Верхняга места. Вось тады, у межах гэтага праекту, і будзе вырашацца: дзе і якія помнікі ствараць.

Дзеля справядлівасці варта сказаць, што яшчэ ў пачатку 1980-х гадоў быў створаны праект рэстаўрацыі і ўзнаўлення Верхняга места. Яго грамадскае абмеркаванне адбылося ў Оперным тэатры. Аднак у 1984 годзе мы недалічыліся будынка гарадскога тэатру, дзе была пастаўлена аперэтка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Станіслава Манюшкі ды Канстанціна Крыжаноўскага «Сялянка». А ўжо на пачатку XXI стагоддзя не стала дома ў самым цэнтры Верхняга места — узору грамадзянскай архітэктуры. Ніхто не шукаў вінаватых у стратах. А рэстаўрацыя помнікаў Верхняга места — гістарычнага цэнтра Мінска — недаравальна зацягнулася.

## «Гарадская скульптура» як дробнатэм'е і пошласць

Маштаб распаўсюду ў Мінску паркавай, дробнамаштабнай скульптуры нагадвае эпідэмію. У гэтай галіне пануе дробнатэм'е і надакучлівая пошласць. Такія помнікі не могуць стаяць на ходніках праспектаў ці плошчаў, у ажыўленых месцах горада. Такой скульптуры павінны быць вызначаны месцы, адпаведныя жанру. Мяркую, што скульптура «Гараднічы» належыць да гэтай катэгорыі. Больш за тое — аб'ект за вушы прыцягнуты ў беларускае гарадское асяроддзе. Ён адмыслова прызначаны для ўшанавання памяці пра расійскую каланіяльную палітыку і яе сістэму. У Мінску няма помніка, прысвечанага ахвярам Курлоўскага расстрэлу 1905 года, а царскі жандар красуецца! Лічу, што адлюстраванне ў манументальнай скульптуры царскага мінулага — антыбеларуская дзейнасць: супраць айчыннай гісторыі і культуры, супраць суверэнітэту Беларусі.

А што ў другіх гарадах краіны? У Брэсце і Гродна жыхароў раздражняюць помнік рускім дэсантнікам і прыводзіць у замяшанне мемарыяльная дошка гродзенскаму губернатару Пятру Сталыпіну, які на гэтай пасадзе працаваў усяго 8 месяцаў. (Нікому ж у Вільні не прыйшло ў галаву ляпіць генерал-губернатара Мураўёва, які загадаў павесіць, расстраляць сотні паўстанцаў, і тысячы — саслаў на катаргу.) Што ж прывабіла гродзенскіх начальнікаў у вобразе царскага стаўленіка? Задушэнне сялянскага руху ў Саратаўскай губерні? Разгон 2-й Дзяржаўнай Думы? Тое, што ён ініцыяваў масавае перасяленне жыхароў Беларусі ў прасторы Расійскай імперыі?

Між тым, у 1919 годзе ў Гродне працавалі Рада і Урад БНР. Дзе мемарыяльная дошка ў гонар сапраўдных прадстаўнікоў беларускага народа, яго эліты? Рытарычнае пытанне! Мы чакаем усталявання помнікаў і мемарыяльных дошак у гонар вялікага князя ВКЛ Вітаўта, караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ Стэфана Баторыя, Антонія Тызенгаўза, Васіля Быкава. З Гродна былі некаторыя жаўнеры і афіцэры Войска Польскага, нават два генералы, якія былі расстраляны ў 1940 годзе ў Катыні — як Гродна ўшанавала памяць пра сваіх пакутнікаў і герояў? Не відно!

У Брэсце нарадзіўся, вучыўся, жыў і працаваў будучы старшыня Ураду БНР Аляксандр Цвікевіч, які быў расстраляны бальшавікамі ў Мінску ў 1937 годзе. З Брэсту і Брэст-Літоўскай зямлі было шмат жаўнераў, што загінулі ў Катыні. Наогул, і ў Брэсце, і ў іншых гарадах Беларусі дастаткова яскравых старонак уласнай гісторыі. Але для таго, каб выдатныя асобы нашай гісторыі і культуры сталі аб'ектамі манументальнай пластыкі ці жывапісу, патрэбныя воля як цэнтральнай улады, так і, можа, у першую чаргу, жаданне і імкненне рэгіянальнай улады.

Дзеля таго, каб у Беларусі запрацавала адмысловая праграма развіцця манументальнага мастацтва, Саюз мастакоў павінен сам генераваць стварэнне такой праграмы. Да гэтай стваральнай працы будуць далучаны прадстаўнікі іншых творчых саюзаў і грамадскіх арганізацый краіны. Гэта асноўнае мерапрыемства на папярэднім этапе, якое дасць магчымасць пераадолець скульптурны крызіс, які назіраецца ў Беларусі.

# Красавіцкі агляд




**Па гарызанталі:** 2. Мігель … . Прозвішча вялікага іспанскага пісьменніка, у памяць пра якога быў устаноўлены Сусветны дзень кнігі, які адзначаецца штогод 23 красавіка. У гэты ж дзень, 80 гадоў таму, у Калінкавічах, у рабочай сям'і Ульяны і Апанаса нарадзіўся Віктар Казько, празаік, журналіст, сябар СП Беларусі з 1977 года. 5. Красавіцкі … — вясны ганец (прыказка). 8. Музычны інструмент, сімвал паэтычнай творчасці. 9. … Гарэцкі. Імя выдатнага беларускага вучонага, геолага, географа, археолага, акадэміка, аднаго з заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук, аўтара шматлікіх навуковых прац; як і яго старэйшы брат, пісьменнік Максім Гарэцкі, вучоны зведаў жахі сталінскіх канцлагераў. 10 красавіка — 120 гадоў з дня яго нараджэння. 10. «З плутоніем, мусіць, абедаў, // І з цэзіем вымыў свой …». З верша Януся Мальца «Як многа чарнобыльскі ўдар…»; 26 красавіка — 34-я гадавіна Чарнобыльскай катастрофы. 12. «Выратуй і памілуй нас, чорны …». Аповесць (1993 г.), якую Віктар Казько прысвяціў праблемам экалогіі і Чарнобылю, а ў рамане «Неруш» (1983 г.) пісьменнік прадбачыць будучую катастрофу. 15. Жаба голас падала — сей …, а як паявяцца камары — сей жыта (прыкмета). 16. … і мудрасць упрыгожваюць чалавека (прыказка). 19. Састаўная частка чаго-небудзь цэлага. 21. … Дыла. Імя беларускага празаіка, драматурга, аўтара рамана «На шляху з варагаў у грэкі»; быў рэпрэсаваны. 14 красавіка — 140 гадоў з дня яго нараджэння. 22. Той, хто вядзе работу сярод мас (размоўнае). 25. «Пажарнікі — заложнікі прагрэсу — // Ад цела аддзіралі з мясам робы». З верша Сяргея Законнікава «Чорная …». 26. Пакладзеныя адна на другую кнігі. 27. Вядучае становішча.

**Па вертыкалі:** 1. Шкадаванне. 3. Тое, што і вугал. 4. … дажджы ў красавіку ды адзін у траўні — тысячы дажджоў каштуюць (прыказка). 5. Покрыва (пераноснае). 6. Аляксей … Прозвішча пісьменніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, аднаго з актывістаў БНФ, які сябраваў з Васілём Быкавым, Ларысай Геніюш; у Гродне яго імем названая вуліца. 14 красавіка — 100 гадоў з дня яго нараджэння. 7. «… ідзе з пралескамі». З верша паэта Станіслава Шушкевіча «Красавік». 11. Выдатны пісьменнік. 13. Частка песціка ў кветкі. 14. «У цябе на слыху перагукваюцца // … і Радаўніца». З верша Рыгора Барадуліна «Малітва наступнасці»; старажытнае вясновае свята памінання памерлых — Радаўніца сёлета адзначаецца праваслаўнымі беларусамі 28 красавіка. 17. Саюз, аб'яднанне. 18. «Між Літвой і Украінай, // … беларуская». З песні «… беларуская» (словы Леаніда Дранько-Майсюка, музыка Ігара Лучанка); 29 красавіка — Міжнародны дзень танца. 20. Апавядальны род літаратуры. 23. «… у Слабадзе». Аповесць Віктара Казько, у якой пісьменнік уздымае тэму ваеннага дзяцінства, дзетдомаўскага жыцця. Маці пісьменніка загінула ад выбуху бомбы, і дзяцінства яго прайшло ў дзіцячым доме. За аповесць пісьменнік быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Якуба Коласа. 24. Барыс … Прозвішча сусветна вядомага вучонага ў галіне астранаўтыкі, ганаровага доктара навук Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, ганаровага грамадзяніна Навагрудка, якому Васіль Быкаў дапамагаў пісаць яго біяграфію. Бацька вучонага — беларус, ураджэнец сённяшняга Карэліцкага раёна. 6 красавіка — 110 гадоў з дня яго нараджэння.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Ну, дык грай жа, дудка!» (НЧ №11 ад 20 сакавіка):**

**Па гарызанталі:** 1. Бурачок. 4. Дзень. 7. Ірыс. 10. Ліхач. 11. Рыска. 13. Зямелька. 14. Ага!. 15. Урад. 18. Плот. 19. Лада. 22. Якар. 23. Лік. 24. Вадаскід. 27. Нежын. 29. Рабро. 31. Гора. 32. Браце. 33. Кабылка.

**Па вертыкалі:** 1. Беларусь. 2. Рух. 3. Кілім. 5. Зорка. 6. Нос. 8. Соль. 9. Чалавек. 12. Капельнік. 14. Аліндарка. 16. Чутка. 17. Голаў. 20. Кушляны. 21. Перамога. 24. Вянец. 25. Доўг. 26. Кулак. 28. Жар. 30. Бал.

# БагатаДата

**У нас вельмі цікавая і разнастайная гісторыя. Паглядзець хаця б на тых таленавітых асобаў, якія нарадзіліся ў гэты тыдзень. Хто яны? Чытайце ў нашым традыцыйным аглядзе.**

## 18 красавіка

**Сусветны дзень радыёаматара, Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных месцаў**, а таксама **Міжнародны дзень цырку.**

**1900.** У вёсцы Занёманск, цяпер гэты ў межах Мастоў у Гродзенскай вобласці, нарадзіўся дзяржаўны дзеяч БССР Даніла Валковіч. Наменсік наркама земляробства, некалькі месяцаў у 1937 годзе кіраваў СНК (Саветам народных камісараў) — урадам БССР. Тады ж арыштаваны нібыта за прыналежнасць да замежнай выведкі і расстраляны.

**1940.** У Казахстане нарадзіўся кампазітар, народны артыст Беларусі Эдуард Ханок. Сярод яго вядомых песняў: «Вы шуміце, бярозы», «Ці тое яшчэ будзе», «Завіруха», «Малінаўка».

**1945.** У Вілейцы Мінскай вобласці нарадзілася Наталля Машэрава, дачка кіраўніка БССР Пятра Машэрава. Была дэпутаткай Палаты прадстаўнікоў, у 2011 годзе спрабавала балатавацца на пасаду прэзідэнта Беларусі, але адклікала сваю кандыдатуру.

**1950.** У вёсцы Цна Мінскага раёна нарадзіўся велагоншчык Уладзімір Камінскі. Станавіўся чэмпіёнам свету і Алімпійскім чэмпіёнам у 1976 годзе ў камандный шашэйнай гонцы на 100 кіламетраў.

## 19 красавіка

**Вялікдзень** па календары праваслаўнай канфесіі.

## 20 красавіка

**1935.** У вёсцы Смалянец Уздзенскага раёна на Міншчыне нарадзіўся скульптар Уладзімір Лятун. Ён — аўтар эскіза медаля Францыска Скарыны, мемарыялу ваеннай славы «Лудчыцкая вышыня» ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці.

## 21 красавіка

**Сусветны дзень творчасці і інавацыйнай дзейнасці.**

**1955.** У Мінску нарадзіўся гісторык Уладзімір Дзянісаў. Аўтар гістарычна-архіўных даследаванняў, на аснове якіх былі праведзеныя рэстаўрацыйныя працы на многіх помніках архітэктуры сталіцы. Даследаваў помныя мясціны, звязаныя з жыццём Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Станіслава Манюшкі, Валянціна Ваньковіча.

## 22 красавіка

**Сусветны дзень Маці-Зямлі.**

**1910.** У Краснаярскім краі Расіі нарадзіўся беларускі архітэктар Віктар Волчак. Адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой», помніка Марату Казею ў Мінску.

## 23 красавіка

**Сусветны дзень кнігі і аўтарскага права.**

**1940.** У Калінкавічах на Гомельшчыне нарадзіўся пісьменнік Віктар Казько. Найбольш вядомыя творы: «Суд у Слабадзе» (Дзяржаўная прэмія імя Якуба Коласа), «Хроніка дзетдомаўскага саду», «Неруш», «Час збіраць косці» (прэмія Ежы Гедройца), «Бунт незапатрабаванага праху» (прэмія «Гліняны Вялес»).

## 24 красавіка

**Міжнародны дзень салідарнасці моладзі.**

**1870.** У Гродне нарадзіўся Баніслаў Багатырэвіч, адзін з двух ідэнтыфікаваных генералаў Войска польскага, якія былі забітыя падчас катынскага расстрэлу ў 1940 годзе.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 651

Падпісана да друку 17.03.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.